КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 14 (286) ◂ 6 красавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ВАЛЕР ЛЯШКЕВІЧ

Стар. 6



ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ. НЕАБВЕШЧАНАЯ ВАЙНА**

Артыкул гісторыка Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# БУДЗЕМ ЖЫЦЬ У ПАРАЛЕЛІ

Вольга ХВОІН

**Стаўленне да ўлады ў Беларусі наўпрост залежыць ад узроўню матэрыяльнага дабрабыту. Праблемы з палітычнымі свабодамі, наяўнасць у краіне палітвязняў хвалююць беларусаў мала.**




У сакавіку Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільнюс) правёў апытанне грамадскай думкі (метадам face-to-face interview апытана 1509 рэспандэнтаў ва ўзросце 18 гадоў і старэй).

Аналітыкі НІСЭПД канстатуюць: «эканамічнае самаадчуванне беларусаў працягвае стабілізавацца. Хоць колькасць тых, чыё матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы палепшылася, усё яшчэ нашмат менш колькасці тых, чыё становішча пагоршылася, суадносіны гэтых паказчыкаў (15,3% супраць 40,4%). Паменшылася і колькасць тых, хто лічыць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, з 87,6% у верасні да 77,2% у сакавіку.

Гэтая стабілізацыя прыводзіць да прыкметнага павышэння «сацыяльна-эканамічнага аптымізму»: калі ў верасні суадносіны тых, хто чакаў пагаршэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў Беларусі ў бліжэйшыя гады, і тых, хто чакаў яе паляпшэння, складала 52,7% супраць 12,9%, то цяпер 22,5% супраць 32,7%. У той жа час гэты аптымізм носіць вельмі асцярожны характар — толькі 34,7% апытаных вераць лютаўскаму абяцанню Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што «дакрызісны ўзровень заработнай платы працоўных будзе адноўлены на працягу года-паўтара», а 57,2% гэтаму не вераць.

«Што такое сярэдняя зарплата ў 500 долараў? Гэта зусім нізкі ўзровень, які мы павінны пераадолець. І гэта задача ўсіх. Я гэта вам кажу таму, што мы зверху пачынаем мацней, кажучы панароднаму, ціснуць на мясцовыя органы ўлады», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў лютым.

Гэта абяцанне росту заробкаў носіць характар дэжавю, бо напярэдадні 2009 года (за два гады да прэзідэнцкіх выбараў) абяцанне сярэдняга заробку ў эквіваленце 500 долараў было фактычна асноўным пунктам, з якім дзейсны кіраўнік дзяржавы «ішоў у народ».

«У пачатку года ў нас выбары ў мясцовыя саветы. А потым канец года, гэта прэзідэнцкая валтузня, праз год прэзідэнцкія выбары. Таму мы вымушаны бегчы хутчэй, чым беглі раней», — настаўляў сваіх падначаленых Лукашэнка. У выніку прыбеглі хутка, атрымалі маўклівую згоду беларусаў на бясчынства сілавікоў і эканамічны абвал у 2011 годзе. Вось такая яна, «шкварачная» Беларусь. Безумоўна, ніхто не гаворыць, што беларусы мусяць жыць у галечы, але ж апроч патрэбаў першай ступені мусяць быць і больш высокія. Толькі хвалююць яны невялікую колькасць людзей, якія разумеюць, што займаць бранку чаргу за таннейшым малаком — не ёсць лячэнне хваробы, на якую пакутуе Беларусь.

Стабілізацыя эканамічнага самаадчування пацягнула за сабой і стабілізацыю іх адносінаў да кіраўніка дзяржавы. Колькасць тых, хто лічыць яго галоўным вінаватым у цяперашнім крызісе ў краіне, знізілася з 61,2% у верасні да 48,6% сёння (адпаведна, віна ўрада ўзрасла з 41,3% у верасні да 46,6%, парламента — з 11,9% да 17,4%, Еўропы — з 12% да 16%). Менавіта з Лукашэнкам цяпер звязвае надзеі на выхад з крызісу найбольшая колькасць рэспандэнтаў — 35,9%. Павялічылася і колькасць тых, хто давярае Лукашэнку: з 24,5% у верасні да 42,2% сёння, а тых, хто не давярае, скарацілася, адпаведна, з 62 да 48,5%.

Вяртаючыся да метадаў вырашэння праблем ва ўладзе. Сацыёлагі сцвярджаюць, што патэнцыял пратэсту ў беларускім грамадстве, нягледзячы на крызіс і скачкі рэйтынгу, на працягу многіх гадоў застаецца практычна нязменным (прыкладна чвэрць насельніцтва), а ў апошні час хутчэй зніжаецца, чым павышаецца. Так, калі ў верасні лічылі сябе ў апазіцыі да цяперашняй улады 28,3%, то ў сакавіку — 23,4%.

Паказальныя і адносіны рэспандэнтаў да людзей, якія ўсё ж абіраюць шлях не быць у маўклівай калоне. На пытанне аб адносінах да таго, што ў студзені-лютым на шэрагу беларускіх прадпрыемстваў работнікі выйшлі з афіцыйнай Федэрацыі прафсаюзаў і ўступілі ў незалежныя прафсаюзы, 27,6% адказалі, што «гэта правільнае рашэнне, толькі незалежныя прафсаюзы могуць абараніць правы працоўных», 35,7% сказалі: «гэта нічога не дае, незалежныя прафсаюзы не могуць абараніць правы працоўных», а 17% — «гэта няправільнае рашэнне, незалежныя прафсаюзы — «пятая калона», агентура замежных дзяржаў». Сумныя перспектывы для тых, хто ўсё яшчэ спадзяецца на беларускую салідарнасць.

Сацыёлагі, праўда, падфарбоўваюць карціну беларускай рэчаіснасці, агучваючы вынікі адказаў, што ілюструюць крыўду на органы ўлады. Звыш 21% апытаных зведалі незаконны гвалт з боку праваахоўных органаў, на думку народа, кіраўнік дзяржавы абапіраецца больш на сілавыя структуры, чым на простых людзей і інш. Цяпер не абароненымі ад магчымага самавольства з боку ўладаў, міліцыі, ДАІ, падатковай службы, судоў, іншых дзяржаўных структур адчуваюць сябе 51,1% . І ў той жа час 27,2% рэспандэнтаў не бачаць сэнсу абараняцца, дзяржава ўсё роўна выйграе. Ці не гэтае бяспраўе і бязвер'е ў магчымасць адстаяць сваю праўду пасяляюць у вочы людзей шэрую тугу, пра якую гавораць ці не ўсе замежнікі, што прыязджаюць у нашу краіну?

Але з любой сітуацыі ёсць выйсце, пытанне, які выбар зробіць канкрэтны чалавек. Пра любоў беларусаў да канструявання паралельнай рэчаіснасці гаворыць статыстыка па продажу алкаголю ў краіне. У студзені-лютым 2012 года рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 11,6% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Доля гарэлкі ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 51,4% (у студзені–лютым 2011 года — 44,2%), паведамляе Белстат. Летась жа (нагадаем, краіна перажывала шок ад эканамічных узрушэнняў) аб'ёмы продажу алкаголю ўвогуле павялічыліся ў 2,1 разу.

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



## СКАНДАЛ

### МАГІЛЁЎ. ПРЫЦЯГНУЦЬ УВАГУ ДА ЗНЯВОЛЕНЫХ

**Беларускія і міжнародныя праваабаронцы налічваюць у нашай краіне 15 палітычных зняволеных. Трацiна з іх утрымліваецца за кратамі ў Магілёўскім рэгіёне.**

Таму незалежныя журналісты, якія гуртуюцца вакол сайта і папяровага выпуску выдання «Наш Магілёў», вырашылі надаць пытанням утрымання палітзняволеных большую ўвагу. З гэтай нагоды на сайце ад сёння з'явілася рубрыка «Навіны з жыцця палітвязняў». З яе дапамогай інтэрнэт-выданне будзе пашыраць інфармацыю пра беларускіх палітычных зняволеных. Журналісты маюць намер зрабіць яе як мінімум штотыднёвай.

«Мы вырашылі сабраць усю інфармацыю пра палітвязняў у адну рубрыку, каб магілёўцы ведалі, што адбываецца з тымі людзьмі, якія церпяць за палітыку, — гаворыць рэдактар сайта, сябра БАЖ Вітольд Няўрыда. — Мы хочам, каб нашы наведнікі маглі ў любы момант дазнавацца пра самае новае, што адбываецца ў жыцці палітзняволеных і вакол іх у краіне і свеце. Мы будзем збіраць усю магчымую інфармацыю пра гэта і зводзіць яе ў адну рубрыку. Мэта адна — мы хочам праз інфармацыю, якая павінна гуртаваць людзей і непакоіць іх, спрыяць найхутчэйшаму вызваленню палітычных зняволеных, многія з якіх з'яўляюцца нашымі калегамі».

У магілёўскіх турмах цяпер адбываюць пакаранне Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Зміцер Бандарэнка, Яўген Васьковіч і Мікалай Дзядок.

**Служба маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

### ГРОДНА. ПАЛКОЎНІК УЗНАЧАЛІЎ ТЭАТР

**Кадравыя перастаноўкі, якія адбыліся ў Гродна на працягу апошняга месяца-двух, уражваюць.**

Спачатку быў заменены дырэктар абласной філармоніі на кандыдатку са Смаргоншчыны, потым быў звольнены нязгодны з праектам рэканструкцыі лялечнага тэатра яго дырэктар.

І вось новая замена, на гэты раз у абласным драматычным тэатры. Ігар Гедзіч, былы штабіст Заходняга аператыўнага камандавання, дзе быў намеснікам начальніка аператыўнага аддзела, цяпер узначаліў тэатр. Напэўна, дзякуй Богу, што толькі адміністрацыю, а не стаў галоўным рэжысёрам. Дарэчы, і галоўны рэжысёр гродзенскага тэатра таксама новы, яго запрасілі з Мінску.

Дык чаго чакаць? Вось меркаванне з гэтай нагоды былога актора Міколы, які звольніўся з трупы з-за нізкіх заробкаў, адсутнасці сучасных роляў і ўвогуле адсутнасці спрыяльнай атмасферы: «Мне проста надакучыла іграць ролі іншаземцаў і герояў мінулых стагоддзяў. А прыход палкоўніка на пасаду дырэктара гаворыць сам за сябе. Гэта нічога не зменіць — ні рэпертуару, ні творчага настрою. І гэта бяда не толькі тэатраў, гэта адсутнасць культуры ў культуры Беларусі. Нават не магу сказаць, гэта камедыя нашага жыцця ці трагедыя асобна ўзятага творчага калектыву».

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

### ГОРКІ. ЗГОДУ НА ЗНОС НЕ ДАЛІ

**Міністэрства культуры прыйшло да высновы, што нельга выключыць са спіса аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны жылыя дамы №4 і №6 па вуліцы Ціміразева і дом №3 па вуліцы Мічурына ў Горках.**

З прапановай пра вывядзенне гэтых будынкаў з Рэестра культурных каштоўнасцяў Беларусі выступіў створаны ў Горках Грамадскі савет па захаванні і памнажэнні гісторыка-культурных каштоўнасцяў, добраўпарадкаванні і сацыяльным развіцці горада Горкі і Горацкага раёна.

Выязное пасяджэнне Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры прайшло 26 красавіка. Прадстаўнікі Мінкультуры прыйшлі да высновы пра неабходнасць захавання ў рэестры аб'ектаў, з якіх у канцы XIX стагоддзя пачалося стварэнне сельскагаспадарчай акадэміі.

«Рашэнне Мінкультуры прынята строга ў межах дзейнага заканадаўства. Каб выключыць аб'екты са спіса нацыянальна-культурных каштоўнасцяў, трэба абгрунтаванне, што яны страцілі ўсе свае якасці, на падставе якіх могуць з'яўляцца помнікамі», — заявіў старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.

Паводле яго слоў, Грамадскі савет быў створаны мясцовай адміністрацыяй толькі дзеля таго, каб ад імя грамадскасці легітымізаваць прапанову Міністэрству культуры па зняцці статусу аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны з гэтых дамоў. «А чаму гэта зроблена? Падрыхтоўка «Дажынак», сціслыя тэрміны, і, адпаведна, лягчэй разбурыць, зрабіць прыгожыя газоны, пыл у вочы пусціць добраўпарадкаваннем, чым захаваць, рэстаўраваць, рэканструяваць», — сказаў Астаповіч.

Ён таксама адзначыў, што цяпер у Міністэрстве культуры знаходзіцца прапанова ад таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры аб уключэнні ў спіс аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны дома ў Горках, дзе ў 1926–1928 гадах жыў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі. «Спадзяюся, што ў канцы красавіка гэта прапанова будзе разглядацца на пасяджэнні навукова-метадычнай рады», — сказаў Астаповіч.

**Паводле БелаПАН**

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАВАЛЕНКУ ПРЫМУСОВА КОРМЯЦЬ

**Вольга ХВОІН**

**Актывіста Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Сяргея Каваленку, які галадае на знак пратэсту, прымусова кормяць праз зонд. Стан яго здароўя, па словах лекара, «больш-менш».**

Жонка Сяргея Каваленкі Алена паведаміла, што прымусовае кармленне пачалося 1 красавіка. «Урач паведаміў мне, што да шасці разоў у дзень яму ўліваюць сумесь «Беллакт», працягваюць ставіць кропельніцы з глюкозай, амінакіслотамі і вітамінамі. Па словах лекара, стан Сяргея больш-менш, — цытуе Алену БелаПАН. — Тэмпература паніжаная, ціск, бышчам, нармальны. Але сам Сяргей есці па-ранейшаму адмаўляецца». Вядома, што Сяргею ўжо пачалі прымусова даваць кашы. Сваякоў да Каваленкі не пускаюць.

Нагадаем, 24 лютага суд Першамайскага раёна Віцебска прысудзіў Сяргея Каваленку да двух гадоў аднаго месяца пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Актывіст партыі КХП-БНФ абвінавачаны ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі (арт. 415 КК). Гаворка ідзе пра пакаранне, якое вынес яму ў маі 2010 года суд Кастрычніцкага раёна Віцебска за вывешванне белчырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска. З 19 снежня мінулага года Каваленка знаходзіцца ў зняволенні.

У знак пратэсту ён абвясціў галадоўку, падчас якой страціў амаль 40 кілаграмаў. У канцы лютага Каваленку па стане здароўя перавялі з Віцебска ў рэспубліканскі турэмны шпіталь у Мінску. З 16 сакавіка яму прымусова ставілі кропельніцы. Выходзіць з галадоўкі добраахвотна Каваленка адмаўляецца, выступаючы такім чынам супраць прысуду. 26 сакавіка яго адправілі з Мінска ў аддзяленне бальніцы ў калоніі «Віцьба–3». Касацыйная скарга Каваленкі павінна быць разгледжана ў Віцебскім абласным судзе 10 красавіка.

На гэтым тыдні сваё адмоўнае стаўленне да галадовак выказаў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. «З пункту гледжання сацыяльнага навучання касцёлу, кожны чалавек мусіць клапаціцца аб сваім здароўі. Касцёл не падтрымлівае такой акцыі, як галадоўка», — заявіў мітрапаліт.

На пытанне аб палітвязнях арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заўважыў, што «мажліва, не вельмі этычна задаваць духоўнай асобе такое пытанне»: «Мы служым усім людзям і молімся за ўсіх людзей. Справы палітычныя — гэта справы палітычныя. Мы займаемся духоўным акармленнем людзей».

Старшыня партыі КХП-БНФ Зянон Пазьняк на такую заяву каталіцкага іерарха выказаў шкадаванне, што арцыбіскуп не знайшоў добрых слоў для чалавека, які на мяжы смерці. «У гэтым стане, калі чалавек, што памірае за праўду, справядлівасць і ідэю, знаходзіцца ўжо на мяжы жыцця, арцыбіскуп не знайшоў словаў жалю і суцяшэння, акрамя як суха працытаваць рацыянальную пазіцыю Касцёла, якая прагучала нібы прыгавор (што, безумоўна, спадабаецца рэжыму ўлады як дазвол на знішчэнне Каваленкі). Як католік я не крытыкую арцыбіскупа, але ведаю, што жаль ёсць найвялікшая любоў», — выказвае сваю пазіцыю Зянон Пазняк у персанальным блогу на Радыё Свабода.

## ФІНАНСЫ

# НА ФОНЕ СТАНОЎЧЫХ ТЭНДЭНЦЫЙ

**Вольга ХВОІН**

**Да 1 ліпеня стаўка рэфінансавання можа быць паніжаная да 30–32%. Пра гэта паведаміла старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Надзея Ермакова.**

«Думаю, што так яно і будзе, калі нейкіх «выбухаў» не здарыцца», — сказала Ермакова. Яна падкрэсліла, што стаўка рэфінансавання разлічваецца на падставе ўзроўню інфляцыі па выніках шасцімесячнай інфляцыі, што адпавядае рэкамендацыям МВФ.

«Стаўка рэфінансавання будзе зніжацца на ўзроўні 1–2 працэнтных пункта ў месяц, каб выйсці да канца года на запланаваны ўзровень у 19–22%, — сказала Ермакова. — Стаўка рэфінансавання павінна быць вышэй на 2, 3, 5 працэнтных пунктаў».

Разам з тым, адзначыла кіраўнік Нацбанку, калі інфляцыя будзе складацца не з манетарных прычын, а ў выніку адміністрацыйнага рэгулявання цэн, Нацбанк пакідае за сабой права павысіць стаўку рэфінансавання.

2 красавіка стаўка рэфінансавання ў Беларусі была зніжана на 2 працэнтныя пункты — да 36% гадавых. Гэта ўжо трэцяе з пачатку 2012 года зніжэнне: першы раз стаўка была зніжана 15 лютага, затым — 1 сакавіка. На працягу 2011 года гэты паказчык павышаўся 12 разоў.

Як тлумачаць у Нацбанку, рашэнне аб зніжэнні стаўкі рэфінансавання прынята «на фоне ўмацавання станоўчых тэндэнцый у эканоміцы і грашова-крэдытнай сферы», з улікам «устойлівага запаволення інфляцыйных працэсаў, стабільнага росту рублёвых дэпазітаў насельніцтва, паляпшэння стану знешняга гандлю».

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

# АПОСТАЛЬСКІ ВІЗІТ

**У Віцебску з двухдзённым візітам знаходзіўся апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Ён сустрэўся з прадстаўнікамі мясцовай улады, наведаў Дом-музей Марка Шагала, прыняў удзел у традыцыйнай велікоднай прэс-канферэнцыі і ў святой імшы ў кафедральным касцёле Ісуса Міласэрнага.**

Віцебскую дыяцэзію арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці наведвае ў другі раз, пры гэтым у Віцебск ён прыехаў упершыню. Тым не менш госцю хапіла ўражанняў і часу, каб зрабіць высновы ад сваіх візітаў на прыдзвінскую зямлю: «Я ўзрушаны асаблівасцямі гэтай дыяцэзіі. Гэта дыяцэзія, якая пачалася амаль што з нуля — пасля доўгай «зімы» Савецкага Саюза. Але яна ўжо дасягнула вынікаў, якія не могуць не здзіўляць. І гэтыя вынікі характарызуюць якасці пастыра, які кіруе дыяцэзіяй, якасці святароў, якія супрацоўнічаюць з біскупам, а таксама якасці людзей, якія шукаюць веру і глыбіню ў сваім жыцці. У іншых месцах я рэдка сустракаў такіх людзей. У душы беларусаў ёсць нешта, што яднае яе, гэту беларускую душу, з пакутамі Хрыста».

Як паведамлялі афіцыйныя СМІ, падчас сустрэчы са старшынёй Віцебскага аблвыканкама Аляксандрам Косінцам апостальскі нунцый выступіў з ініцыятывай арганізаваць у Віцебску выставу прац Марка Шагала з фондаў Ватыкана.

Пасля прэс-канферэнцыі ў касцёле Ісуса Міласэрнага адбылася імша. На ёй апостальскі нунцый маліўся разам з вернікамі Віцебска.

Даведка: Апостальскі нунцый — духоўная асоба, часцей за ўсё — арцыбіскуп, якая з'яўляецца пастаянным дыпламатычным прадстаўніком Ватыкана і асабіста Папы Рымскага ў дзяржавах, з якімі ўстаноўленыя дыпламатычныя адносіны.

Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці нарадзіўся 7 кастрычніка 1955 года ў Вероне. Скончыў факультэт усходніх моваў і літаратуры пры Венецыянскім дзяржаўным універсітэце. Атрымаў вучоную ступень магістра навукі святой літургіі пры Папскім літургічным інстытуце святога Анзэльма ў Рыме. Апостальскім нунцыем у Беларусі з'яўляецца з 16 ліпеня 2011 года. Да гэтага займаў пасаду апостальскага нунцыя ў Грузіі, Арменіі і Азербайджане.

**Паводле сайта «Народныя навіны Віцебска»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# АЭС ЦІ АЗС?



Сяргей САЛАЎЁЎ

**Што ні дзень, то ў беларускай улады ўзнікаюць новыя амбіцыйныя праекты. Ці то гэта пыл у вочы суразмоўцам, ці жаданне здавацца нават самім сабе больш значнымі, чым гэта ёсць на самай справе. Але адна справа — сказаць, а выканаць — зусім іншая.**

Вось і зараз: мы яшчэ нават не пачалі будоўлю першай атамнай станцыі, а Аляксандр Лукашэнка ўжо замахваецца на другую. Аб гатоўнасці пабудаваць у Беларусі другую атамную электрастанцыю Аляксандр Лукашэнка заявіў 3 красавіка на сустрэчы з гендырэктарам Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) Юкіа Амана, які знаходзіцца ў Мінску.

«Калі будзе ваша садзейнічанне, падтрымка і адпаведныя ўмовы, мы гатовыя і другую атамную станцыю пабудаваць у Беларусі. Я цвёрда ўпэўнены, што ядзерная энергетыка — быць, і што гэта — найбольш бяспечная сфера і найбольш бяспечны шлях атрымання таннай энергіі, у якой свет усё больш будзе мець патрэбу», — заявіў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, свет перажывае асаблівы перыяд у развіцці мірнага атаму пасля вядомых падзей у Японіі і праблем з ядзернай электрастанцыяй «Фукусіма», а таксама намераў Германіі і іншых краін згарнуць ядзерныя праекты, што мелі месца ў наступным. «У гэты асаблівы перыяд мы цвёрда і адназначна заяўляем пра тое, што мы не проста маем намер пабудаваць атамную электрастанцыю, але і пачалі яе будаўніцтва», — падкрэсліў Лукашэнка.

«Я мяркую, што МАГАТЭ — арганізацыя, вельмі зацікаўленая ў тым, каб такія, вядома ж, бяспечныя, праекты ў свеце рэалізоўваліся. Таму мы вельмі спадзяёмся, што спадар Амана, як і мінулыя кіраўнікі гэтага агенцтва, акажа нам сур'ёзную маральную падтрымку ў будаўніцтве атамнай электрастанцыі», — дадаў Лукашэнка.

Між іншым, пра «пачатак будаўніцтва» — гэта перабольшванне. Работы па будаўніцтву першай АЭС павінны пачацца ў Астраўцы толькі ў красавіку. І не вядома, ці пачнуцца яны. Кантракт па ўзвядзенні першай чаргі АЭС быў падпісаны ЗАТ «Атамбудэкспарт» і беларускай дзяржустановай «Дырэкцыя будаўніцтва атамнай электрастанцыі» 11 кастрычніка 2011 года ў Санкт-Пецярбургу. Ён прадугледжвае будаўніцтва пад ключ двух энергаблокаў АЭС агульнай магутнасцю да 2400 МВт з рэактарнай устаноўкі В–491.

Беларуская АЭС будзе будавацца на ўмовах поўнай адказнасці расійскага генпадрадчыка і на расійскія грошы. 25 лістапада 2011 года было падпісана міжурадавае пагадненне аб даванні ўраду Беларусі дзяржаўнага экспартнага крэдыту для будаўніцтва АЭС. Гаворка ідзе пра 10 мільярдаў долараў ЗША.

Але нешта не чутна было пра тое, што хаця б адзін цэнт на будаўніцтва АЭС у Беларусь бы патрапіў. Так што сумнеўна, што хоць нейкая праца па будаўніцтве АЭС у красавіку пачнецца. Перавод крэдытных грошай — гэта справа не аднаго дня.

Больш за тое, няма ўпэўненасці, што гэтыя грошы будуць скарыстаныя па прызначэнні. У 2012 годзе Беларусь павінна будзе аддаваць шмат крэдытаў, а грошай на гэта пакуль што не прадбачыцца.

Тым часам, эканамічныя санкцыі ў адносінах да пэўных беларускіх кампаній з боку Еўропы прынеслі нечаканы вынік: кампаніі пачалі шукаць новыя рынкі збыту і дыверсіфікаваць свае пастаўкі. То бок, Еўропа зрабіла тое, чаго доўгі час так марна дамагаўся кіраўнік Беларусі.

Кампанія «Трайпл» можа забраць частку ўкраінскага рынку нафтапрадуктаў у Мазырскага НПЗ. Пра гэта на канферэнцыі «Нафтаперапрацоўка і экспарт нафтапрадуктаў Беларусі» ў Мінску 2 красавіка, арганізаванай кампаніяй Confidence Capital, заявіў дырэктар кансалтынгавай групы «А–95» (Украіна) Сяргей Куюн.

Нагадаем, «Трайпл» уваходзіць у лік кампаній, у дачыненні да якіх Еўрасаюз у сакавіку гэтага года ўвёў фінансавыя санкцыі.

«Ёсць такі гулец, як кампанія «Трайпл Энерга», якая зрабіла прыкметны ўнёсак у экспарт нафтапрадуктаў з Беларусі ва Украіну летась», — сказаў Куюн.

Ён адзначыў, што ў 2011 годзе «ў балансе бензінаў пастаўкі з Беларусі склалі 23% украінскага рынку і 26% у балансе дызельнага паліва». «Але калі сюды дададзім «Трайпл», то тэрытарыяльна пастаўкі нафтапрадуктаў ва Украіну з Беларусі перавысяць 40% украінскага рынку», — заўважыў Куюн. Паводле слоў Куюна, «Трайпл» выбудоўвае планы па нарошчванні аб'ёмаў паставак нафтапрадуктаў ва Украіну.

Між тым, пасля павелічэння базавай велічыні да 100 тысяч рублёў, аўтамабілісты чакаюць і падвышэння коштаў паліва. Кіламетровых чэргаў на запраўках няма, але агульны ажыятаж ужо прыкметны: кожны другі запраўляе поўны бак. Некаторыя бяруць з запасам — паліва заліваюць у каністры і пяцілітровыя пластыкавыя бутэлькі, схаваныя ў багажніку.

Падаражэе паліва ці не, пакуль не вядома. На аўтазапраўках аб хуткім павышэнні цэн інфармацыю не пацвярджаюць, але не выключаюць, што ўжо на гэтым тыдні цэны на бензін могуць вырасці на 3–5%.

І, нягледзячы на тое, што санкцыі з беларускіх прадпрыемстваў ніхто не здымаў, Мінск, бачна, вырашыў зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні. Толькі пару тыдняў таму МЗС крычаў пра тое, што еўрапейскія паслы ў Беларусі непатрэбныя і могуць не вяртацца. Зараз Мінск маўчыць, а паслы ЕС маюць намер вярнуцца ў Беларусь пасля каталіцкага Вялікадня, які будзе 8 красавіка.

Некалькі крыніц у Міністэрстве замежных спраў адной з еўрапейскіх краін пацвердзілі, што дамоўленасць аб сумесным вяртанні паслоў ЕС у Беларусь на наступным тыдні існуе. Такое рашэнне, паводле іх слоў, было прынята на ўзроўні паслоў краін ЕС у Брусэлі, прычым прынята хутка, «што гаворыць аб адсутнасці рознагалосся па гэтым пытанні», падкрэсліў адзін з суразмоўцаў.

Ён патлумачыў: у ЕС мяркуюць, што не варта зацыклівацца толькі на абмежавальных мерах у адносінах з Беларуссю. Апрача таго, пры наяўнасці ў Мінску паслоў у ЕС з'яўляецца больш каналаў інфармацыі і магчымасцяў весці перамовы з прадстаўнікамі ўлады і апазіцыі, уплываць на сітуацыю.

Канешне, уплываць на сітуацыю паслы не здолеюць. Але ж можна спадзявацца, што па вяртанні паслоў, беларускіх грамадзян скончыць калацiць наконт магчымага спынення выдачы еўрапейскіх візаў ці праблем з імі. Канешне, консульскія аддзелы працуюць незалежна ад паслоў, але ўсё ж такі хочацца, каб усё было стабільна і без сюрпрызаў.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВІКТАР АСЛЮК



Фільм «Зямля» беларускага рэжысёра-дакументаліста Віктара Аслюка атрымаў узнагароду на XXXIV Міжнародным кінафестывалі Cinema du Reel.

Cinema du Reel — гэта найбуйнейшы кінафестываль дакументальных фільмаў у франкафонным свеце. Ён праходзіў у Парыжы з 22 сакавіка па 1 красавіка. Беларускі дакументальны фільм «Зямля» быў зняты па замове тэлеканала «Белсат», — піша БелаПАН.

Стужка «Белсата» атрымала ўзнагароду Le Prix International de la Scam у катэгорыі кароткаметражных замежных дакументальных фільмаў. Беларускі фільм канкураваў з дзесяццю іншымі фільмамі з усяго свету.

«Фільм "Зямля" — гэта 33-хвілінная стужка, элегія, плач па далікатнасці жыцця, якую знялі ў 2011 годзе. Ён распавядае пра тое, як на беларуска-расійскім памежжы шукаюць чалавечыя парэшткі, не пахаваныя з часоў Другой сусветнай вайны. За сем гадоў знайшлі больш за 700 салдат. У 1942 годзе ў віцебскіх і наўгародскіх лясах праходзіла лінія фронту, дзе загінулі тысячы савецкіх вайскоўцаў. Тады адзін полк СС знішчыў 3 савецкія дывізіі. Страты Чырвонай Арміі ў ходзе пазіцыйнай вайны за наступныя два гады склалі каля 75 %», — распавёў прэс-сакратар «Белсата» Сяргей Пелеса.

У фільме распавядаецца пра тое, як капальнікі едуць у тыя мясціны за свой кошт, жывуць у палявых умовах, спяць у намётах, сілкуюцца кансервамі і ўвесь дзень прасейваюць брудную зямлю, каб знайсці як мага больш рэчаў, што належалі загінулым салдатам.

Рэжысёр Віктар Аслюк — адзіны беларус, які з'яўляецца сябрам Еўрапейскай кінаакадэміі, ён лаўрэат 25 еўрапейскіх кінапрэмій, аўтар 30 дакументальных фільмаў.

### ЯГОР РЫБАКОЎ



Скандальнавядомы экс-кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў, які адседзеў 5 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму, хоча стаць дырэктарам «Альфа Радыё». Выконваючы абавязкі дырэктара «Альфа Радыё» Яўген Урыўскі распавёў інтэрнэт-парталу tut.by, што «правам разглядаць такія пытанні валодае выключна сход акцыянераў». Такі сход мусіць адбыцца ў красавіку. Акцыянерамі радыёстанцыі з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі і ТАА «Без праблем». У Мініфарма — кантрольны пакет акцый.

— Прыватныя акцыянеры адназначна супраць таго, каб кіраваць радыёстанцыяй прыйшоў Рыбакоў, Міністэрства інфармацыі таксама не гарыць жаданнем бачыць яго на гэтай пасадзе, — кажа Урыўскі. — Усё прымаюць пад увагу яго біяграфію. Справа ў тым, што гэты чалавек яшчэ тры гады не мае права займаць кіруючыя пасады. Калі такое адбудзецца, гэта пагражае санкцыямі для самой радыёстанцыі, аж да пазбаўлення «Альфа Радыё» ліцэнзіі. Так нам растлумачылі ў МУС.

Урыўскі сцвярджае, што яму не вядома, хто мог пры такім раскладзе рэкамендаваць Рыбакова на пасаду дырэктара «Альфа Радыё». «Напэўна, хтосьці вышэй, чым сход акцыянераў», — заўважае ён.

Па словах в.а. дырэктара «Альфа Радыё», сёння на радыёстанцыі працуюць каля 40 чалавек. «Усе яны напалохаваныя перспектывай мець новага кіраўніка з крымінальным мінулым. Да таго ж журналісцкая супольнасць вельмі цесная, таму многія не па чутках ведаюць аб працы Рыбакова ў Белтэлерадыёкампаніі», — адзначыў Яўген Урыўскі.

У 2005 годзе кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі (на пасадзе з 2001 года) Ягора Рыбакова асудзілі на 11 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Ён абвінавачваўся ў хабарніцтве і выкарыстанні службовага становішча з мэтай легалізаваць сродкі, атрыманыя незаконным шляхам. У калоніі Рыбакоў узначальваў турэмную тэлестудыю. 29 сакавіка 2010 года Ягора Рыбакова вызвалілі датэрмінова.

### МЕТАЛУРГ



Жлобінскі «Металург» пасля перамогі над гродзенскім «Нёманам» у шостым паядынку фінальнай серыі плэй-оф экстралігі адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі ўпершыню стаў чэмпіёнам Беларусі. «Нёман» (Гродна) — «Металург» (Жлобін) — 0:1 (0:0, 0:1, 0:0).

Правы на памылку ў «Нёмана» ў гэтым паядынку не было, бо параза аўтаматычна азначала б канец фінальнай серыі і чэмпіёнства «Металурга», які прыехаў у Гродна з трыма выйгрышамі ў багажы.

Такім чынам, пераможца рэгулярнага сезону жлобінскі «Металург», упершыню ў сваёй нядоўгай 6-гадовай гісторыі, выйшаў у фінальную серыю, заваяваў залатыя медалі і Кубак кіраўніка Беларусі, які ўручаецца пераможцу плэй-оф чэмпіянату Беларусі.

Гродзенскі «Нёман» другі год запар стаў сярэбраным прызёрам. Роўна год таму гродзенцы саступілі золата ў фінальнай серыі мінскаму «Юнацтва».

Бронзавыя медалі цяперашняга чэмпіянату Беларусі дасталіся «Гомелю» — аднаму з няўдачнікаў паўфінальных серый, які заняў больш высокае (3-е) месца ў рэгулярным сезоне.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАМУ — УСЁ, КАМУ — ЗАКОН

Сяргей НІКАЛЮК

**Гістарычны досвед падказвае, што ўніверсальнасць закона не сумяшчаецца з універсальнасцю «вертыкалі» ўлады.**



Калі пагадзіцца з Леніным, што «электрон такі ж невычарпальны, як і атам», дык артыкулы фізіка Рубінава на грамадска-палітычныя тэмы невычарпальныя ў невычарпальнай ступені. Таму маю папярэднюю «Азбуку паліталогіі» (гл. НЧ №12) варта разглядаць як сціплую спробу падступіцца да тэарэтычнай глыбы, апублікаванай у *«Советской Белоруссии»* пад назвай *«Общество. Власть. Время»*. Але калі ўжо падступіўся, дык давядзецца несці свой аналітычны крыж да канца.

У чарговы раз пачну з грамадства. Майму апаненту яно ўяўляецца як неразумнае дзіця, якое хоча атрымаць усё і адразу. Мяркуйце самі: *«Люди хотят понижения цен, повышения зарплат и снижения курса доллара с тем, чтобы сделать более доступными импортные товары. А с точки зрения требований экономики, т. е. для страны в целом, необходимо попридержать рост зарплат, ограничить импорт, по возможности переходить к свободным ценам»*. Спіс неразумных жаданняў можна лёгка працягнуць, і калі б не прэзідэнт і ўрад, у нас усё б пайшло б па грэчаскаму сцэнару, таму што *«интересы членов общества, стремление к удовлетворению своих потребностей»* перасталі б адпавядаць *«интересам государства, т. е. общества в целом»*.

Дык вось, каб інтарэсы *«членов общества»* адпавядалі інтарэсам *«общества в целом»*, улада, з аднаго боку, абмяжоўвае патрэбы *«членов общества»*, а з другога — імкнецца забяспечыць канкурэнтаздольны рост эканомікі (гэта калі *«темпы роста экономики должны обязательно превышать темпы роста благосостояния граждан»*).

Пра тое, як улада супрацьстаіць росту завышаных патрабаванняў знізу, нам расказаў адзіны палітык (АП) падчас сакавіцкай нарады, прысвечанай удасканаленню пенсійнага забеспячэння грамадзян. Цытую: *«Совершенствуя пенсионную систему, мы отбрасываем вариант, по которому пошла Европа — повышение пенсионного возраста. Мы не можем на это сейчас пойти. Мы обещали своим людям, что мы на это пока не пойдем. И люди просят нас не делать этого»*.

### Нацыя вялікая, але недаспелая

Вось так наша ўлада, якая сама сябе абвясціла моцнай і эфектыўнай, на практыцы супрацьстаіць неразумным патрабаванням неразумных *«членов общества»*. Між іншым, гэтыя самыя *«члены»*, паводле прэамбулы Канстытуцыі, з'яўляюцца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады. Нагадаю, калі хто забыў: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі), зыходзячы з адказнасці за цяперашні стан і будучыню Беларусі, усведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнага супольніцтва і пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцей, <…> прымаем гэтую Канстытуцыю».

Пагадзіцеся, цікава атрымліваецца. З аднаго боку, народ — гэта паўнапраўны сусветны суб'ект. А з другога боку, неразумныя *«члены»*, якія *«стремятся переехать в столицу, правдами-неправдами устраиваются на работу, заводят семью, а потом требуют квартиру, льготный кредит»*. Задумайцеся, якая адказнасць «за цяперашні стан і будучыню Беларусі» можа быць у такой меркантыльнай крыніцы ўлады?

Улада — адкуль яна? У Пасланні да рымлян апостал Павел піша: «Кожная душа няхай скараецца вышэйшым уладам; бо няма ўлады не ад Бога; а ўлады, якія існуюць, ад Бога ўстаноўлены». Я не адзін раз перачытваў беларускую Канстытуцыю. Спасылак на боскае паходжанне ўлады ў ёй няма. Наадварот, як ужо адзначалася вышэй, адзінай крыніцай улады ў нас з'яўляецца народ (грамадства). А калі так, дык якое грамадства, такая і ўлада. Ці наадварот? Што тут прычына, а што вынік, альбо мы маем аналаг вядомай дылемы пра курыцу і яйка?

Ці бачыць гэтую супярэчнасць мой апанент? І так, і не. Ён шмат і ў цэлым правільна гаворыць пра тое, што *«демократия становится востребованной»* на пэўным этапе развіцця грамадства, і таму навязваць яе сілай — занятак бесперспектыўны, да дэмакратыі грамадству неабходна даспець. Беларусы, яны ж *«великая нация»* па вызначэнню АП (глядзі Навагодні зварот), аднак да дэмакратыі заходняга ўзору яшчэ не даспелі, таму наш шлях мусіць быць іншым — *«модернизация и либерализация экономики, наращивание доли частного бизнеса в общей системе хозяйства при полном сохранении управляемости государством с помощью «вертикали» власти»*.

### Дробязь, а прыемна

Пакуль *«великая нация»* не даспела да самастойных палітычных рухаў, ёй *«необходимо наработать политическую культуру и отказаться от мысли о каких-либо «цветных революциях»*. Наш шлях у цывілізаваны свет з яго дэмакратыяй і эфектыўнай эканомікай палягае не праз канфрантацыю з уладай, а праз *«закон и порядок»*. У чарговы раз я вымушаны звярнуцца да цытавання: *«Закон и Порядок — вот наш главный сегодняшний лозунг и главный ориентир нашего общественного развития. Законы должны приниматься демократично, с максимальным участием общественности, но затем эти законы и установленный на их основе порядок должны выполняться неукоснительно»*.




Хто б спрачаўся наконт *«Закона и Порядка»*, але як іх прымаць дэмакратычна, калі вялікая нацыя да дэмакратыі не даспела? Вось толькі адзін прыклад. 16 сакавіка АП правёў нараду наконт удасканалення пенсійнай сістэмы, а ўжо 18 сакавіка падпісаў адпаведны ўказ (№136). Цікава, у чым тут выявілася *«максимальное участие общественности»*?

Калі аўтарытарная ўлада пачынае казаць пра *«Закон и Порядок»* з вялікай літары, мне адразу згадваецца знакамітае выказванне Мусаліні: «Для сваіх у нас усё, для астатніх — Закон». З першай часткай выказвання беларуская ўлада асаблівых цяжкасцей не адчувае, чаго не скажаш пра другую. Гэта вынікае ўжо са стаўлення ўлады да Канстытуцыі, якая ўтрымлівае цэлы шэраг дэмакратычных нормаў нават у прэамбуле (глядзі вышэй). Нормы нормамі, але акадэмік (а па сумяшчальніцтву старшыня Савета Рэспублікі) нам падрабязна патлумачыў, што ўсё гэта — не больш чым дэкларацыі, таму беларускае грамадства жыць па гэтых нормах яшчэ не гатовае.

Рубінаў, калі абгрунтоўвае першачарговасць эканамічнай лібералізацыі перад лібералізацыяй палітычнай, спасылаецца на досвед Сінгапура, Паўднёвай Карэі і Кітая. Дарэмна ён гэта робіць. Я вялікі аматар бацькі «сінгапурскага цуда» Лі Куан Ю. Адкрыем яго бестселер «Сінгапурская гісторыя: з «трэцяга свету» — у «першы» (1965–2000)» і з дапамогай пошукавіку знойдзем цытаты, якія ўтрымліваюць слова «закон». Абмяжуюся толькі адной: «Пасля валютнага крызісу, што пачаўся ў чэрвені 1997 года, у нашых адносінах намецілася пацяпленне. Злучаныя Штаты заўважылі, што Сінгапур быў карысным партнёрам. Сінгапур быў адзінай краінай рэгіёну, якая дзякуючы захаванню прынцыпу вяршэнства закона і наяўнасці строгіх правіл рэгулявання і нагляду за банкаўскай сістэмай здолела паспяхова перажыць масавы адток капіталу з гэтай часткі замнога шару».

А якім чынам беларуская ўлада выстройвае адносіны са Злучанымі Штатамі? Ці здольная яна быць карысным партнёрам найбуйнейшай эканамічнай дзяржавы, ці замест пацяплення мы маем пахаладанне? Магчыма, прычына ў двух дзясятках нашых грамадзян, што ездзяць па свету і пераконваюць *«властные структуры и общественность Запада в том, что в Беларуси диктатура, что здесь невиновных бросают за решетку, применяют к ним пытки, что в стране тирания»*? Я вось спрабую ўявіць сабе Лі Куан Ю, які тлумачыць знешнеэканамічныя няўдачы актыўнасцю двух дзясяткаў сваіх суайчыннікаў. Дарэчы, калі ён сутыкаўся з такімі фактамі, дык гонар і годнасць дзяржавы, зрэшты, як і свае ўласныя, абараняў у судзе. Тут неабходна тлумачэнне: Вярхоўная кааліцыйная інстанцыя суда Сінгапура знаходзілася ў Лондане. Здавалася б, дробязь , а прыемна.

### Час трымаць справаздачу

Згодна з паліталагічнай азбукай, ёсць тры крыніцы, што кансалідуюць грамадства, — сіла, вера, закон. Зразумела, што гістарычна была галоўнай сіла. Са з'яўленнем сусветных рэлігій яе пацясніла вера. Фармаванне сучасных грамадстваў (нацый) стала магчымым толькі з апірышчам на закон. Прычым абавязковай умовай для выканання ролі нацыянальнага інтэгратара з'яўляецца яго ўніверсальнасць.

Тут я не магу адмовіць сабе ў задавальненні і ў чарговы раз звярнуся да цытавання: «Строга кажучы, толькі еўрапейскі Новы час адкрыў перспектыву пераходу ад мадэлі суіснавання дзяржаўнай і дадзяржаўнай культур да мадэлі, у якой дзяржаўная культура робіцца ўсеагульнай. Яе асноўнай абстракцыяй стаў закон, які ўпершыню быў надзелены ўніверсальным вярхоўным статусам. З інструмента абароны дзяржавы і прывілеяў элітных груп ён ператвараецца ў інструмент абароны натуральных, г. зн. дадзеных ад прыроды, правоў і свабодаў грамадзян — роўных для ўсіх і ў гэтым сэнсе таксама ўніверсальных» (Аляксандр Ахіезер, гісторык).

Гістарычны досвед падказвае, што ўніверсальнасць закона несумяшчальная з універсальнасцю самадзяржаўя, а ў больш шырокім сэнсе — з універсальнасцю «вертыкалі» ўлады, нават калі яна пабудавана на аснове нібыта дэмакратычнай Канстытуцыі. Беларуская, напрыклад, утрымлівае артыкул 22: «Усе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў». Наколькі я ведаю, агульнанацыянальнага рэферэндуму наконт яе адмены не праводзілася. Дык як жа тады разумець наступную заяву АП наконт спісу невыязных апазіцыянераў: *«А мы сделали. И то, мы его еще не ввели. На полную мощь еще не ввели. Но введем»*. Чаму няма спасылак на адпаведныя законы, ці АП для абмежавання ў правах сваіх палітычных апанентаў у такіх спасылках не мае патрэбы?

Палітычная эліта любой краіны выконвае тры функцыі: сімвалічную (выпрацоўка каштоўнасцяў), інтэграцыйную (мараль, нормы, правілы) і функцыю вызначэння мэтаў (палітыка, кіраванне). Мае рацыю Рубінаў, калі сцвярджае, што беларускае грамадства не гатовае да дэмакратыі, аднак у распараджэнні АП і Кº было амаль 18 гадоў, каб беларусы савецкага ўзору наблізіліся да заходняга стандарту. Сёння ад палітычнай эліты патрабуюцца не сентэнцыі, кшталту ад паўфеадалізму немагчыма *«сразу перескочить к демократии»*, а справаздача пра выкананую працу па прасоўванні беларускага грамадства з архаікі ў сучаснасць.

ІНІЦЫЯТЫВА

# ЯК БЫЦЬ, ТО БЫЦЬ ГАСПАДАРОМ

Вольга ХВОІН

**«Дзе нарадзіўся — там і прыгадзіўся». Ад гэтай ідэі быццам бы адштурхоўваліся ініцыятары праграм будаўніцтва аграгарадкоў. Але які складнік адказвае за тое, каб вочы ў людзей гарэлі за сваю справу ды ў галаве не жыла думка «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё»? Адказ трэба шукаць у гаспадароў.**


Фота аўтара
Эдуард Вайцяховіч (справа) і Уладзімір Карагін

Цяпер ёсць дзве дзяржаўныя праграмы, накіраваныя на развіццё сельскіх рэгіёнаў. Гэта Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі на 2005–2010 гады і Дзяржаўная праграма развіцця малых гарадоў. Рэсурсы гэтых праграм у асноўным скіраваныя на падтрымку калектыўнай сельскай гаспадаркі, дзяржаўных прадпрыемстваў і будаўніцтва жылых дамоў для працаўнікоў сельскагаспадарчых кааператываў. Чалавек жа па-сапраўднаму перажывае найперш за сваё.

У мястэчку Камарова, што на Мядзельшчыне, жыве даволі вядомы для тых, хто цікавіцца тэмай прыватных ініцыятыў, гаспадарнік Эдуард Вайцяховіч. Яшчэ на пачатку 1990-х гадоў ён арганізаваў сваю першую прадпрымальніцкую справу. І ў няпростых умовах дзяржаўнага кіравання яна не толькі не загнулася, а даволі паспяхова працуе і ў нашы дні.

У Камарова намаганнямі апантанага Вайцяховіча быў заснаваны Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва «Камарова», потым паўстала грамадскае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю».

### Чым англійскі гной адрозніваецца ад беларускага

Спадар Эдуард з імпэтам праводзіць экскурсію па мястэчку. У Камарова захавалася прыгожая сядзіба, што раней належала графу Старжынскаму, радавое гняздо якога было пад Варшавай. Да гэтага часу на тэрыторыі сядзібы ёсць флігелі, свіран, кароўнікі, майстэрня і жылы дом для рабочых. Ад сядзібы крочым да сучаснай кацельнай на мясцовых відах паліва і пякарні. Па дарозе гаспадар распавядае нам пра сённяшнія аграсядзібы, што прымаюць гасцей не толькі з Беларусі. «Пісьменніца з Аўстраліі прыязджала — два тыдні тут жыла і пісала кнігу. Плаціла за гэта, бо ёй падабалася», — з гонарам адзначае ён.

Увогуле, Эдуард Вайцяховіч трымаецца надзвычай пазітыўнай ідэі: гісторыю свайго краю трэба выкарыстоўваць з розумам, але найперш усвядоміць, што беларусы нічым не горшыя за немцаў ці шведаў.

Так, сваіх сыноў спадар Эдуард адпраўляў на стажыроўкі ў фермерскія гаспадаркі Англіі, каб тыя пераканаліся, што «англійскі гной пахне гэтак жа, як і беларускі».

«Не трэба думаць, што ты разумнейшы за Бога і можаш кіраваць. Няма Бога апроч Бога. Але трэба людзям раскрыць вочы і, самае галоўнае, паказаць беларусам, што яны не горш за немцаў. А ў нас прывыклі часам думаць, што мы, беларусы, не можам. Ці яшчэ адмазка ёсць: у немцаў грошы, ім даюць... А чаму мне ніхто не дае? Трэба рабіць, але найперш — пераканаць сваіх дзяцей, што і ў мяне атрымалася. Мае хлопцы ў мяне вераць, а калі вераць хлопцы, то будуць верыць сябры», — з запалам распавядае спадар Эдуард.

### Страчанае пакаленне

Калі праехаць па краіне, то сапраўдных гаспадароў, якія моцна стаяць на сваёй зямлі, можна пабачыць нямала. Праўда, збольшага гэта будуць людзі старэйшага пакалення. Каб паказаць маладым беларусам вабноты ўласнай справы ды арганізацыйныя асновы, Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва «Камарова» і грамадскае аб'яднанне «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю» стварылі школу маладога прадпрымальніка. «У нас міжнародная праграма са Скандынавіяй: едзь, дзетка, павучыся там фермерскай гаспадарцы, малому бізнэсу, турызму. Але не трэба, каб малады чалавек ехаў у Скандынавію і дапамагаў шведам. Наша зямля, беларуская, нічым не горшая, — падкрэслівае Вайцяховіч, і з жалем працягвае думку пра страчаныя магчымасці: — Мы дваццаць гадоў жывём пры беларукім капіталізме, а вы ўжо хочаце нейкіх працэсаў. Мы іх яшчэ і не пачалі, па вялікаму рахунку! Мы страцілі цэлае пакаленне дзяцей, але ў гэтай групе мы пачынаем працаваць, і ўлады гэта ўжо разумеюць».

Сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў аказвае гэтаму праекту кансультацыйную падтрымку. Старшыня саюза Уладзімір Карагін гаворыць, што ініцыятыўных маладых людзей у Беларусі хапае, але ім бракуе элементарных ведаў — з чаго ўсё пачынаць. «Людзі з ініцыятывай ёсць, але іх магло б быць больш. Справа ў тым, што вельмі мала надаецца ўвагі праблемам маладых людзей. Большасць з іх папросту не ведаюць, з чаго пачаць. Няма алгарытму ўваходу ў рэалізацыю ўласнага праекту, генерыравання яго, умення сабраць людзей, рэсурсы. То бок на шляху маладога чалавека стаіць вельмі многа незразумелых пытанняў, — канстатуе кіраўнік прадпрымальніцкага саюзу. — Уся інфармацыя вакол нас цяпер збольшага забаўляльнага характару. Мы вельмі мала гаворым пра надзённыя праблемы, мала дзелімся досведам. І маладыя людзі не бачаць прыкладаў. Важна пераадолець і страх перад жаданнем «высунуцца», праявіць сябе. Гэта кладзецца і на нашу ментальнасць, бо лічыцца, што асабліва «высоўвацца» не этычна, не культурна. Экранная мадэль дэманструе нам, што бізнэсмэн мусіць ездзіць на дарагіх машынах, жыць шыкоўна, і гэта цісне на моладзь. На нашых сустрэчах маладыя людзі гавораць, што не хочуць з'язджаць, але думаюць, што будуць пачувацца тут няўдачнікамі. Мы прывозім на сустрэчы паспяховых людзей, якія распавядаюць, як пачыналі сваю справу, як таксама баяліся і сумняваліся. І, калі ёсць рынак для ідэй, ёсць рэсурсы, то ўсё вырашальна. Крок за крокам».

За гэтымі размовамі пра індывідуальнасць можа падацца, што ўся соль у хутарской гаспадарцы, аднаасобнасці. Але не: «Будзе харошы старшыня калгаса, але ён памрэ, дык нічога і не застанецца, павер мне. А застанецца тады, калі ў кожнага будзе свая справа. Вось тады гэта будзе жыццё, калі ад старшыні калгаса нічога не будзе залежаць. Павер, вось у гэтым жыццё. Трэба ў людзей верыць! Ты ж сам не можаш нічога зрабіць, у нас толькі адзін чалавек усё хоча сам рабіць», — разважае Вайцяховіч.

### Аднаго жыцця мала

Але будзем шчырымі: многія ідэі, каб увасобіцца ў рэальнасць, патрабуюць фінансавай падтрымкі. Ці лёгка ў Беларусі папрасіць грошай у дзяржавы на сваю справу, на тое ж абсталяванне пякарні — пытанне хутчэй рытарычнае. Разам з тым добрыя праекты на «ўра» ідуць у фондаў і арганізацыяў замежжа. Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва «Камарова» супрацоўнічае з мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтрам (IBB), Сусветным банкам, Глабальным экалагічным фондам ды іншымі. Менавіта яны прымалі ўдзел у розных праектах, у тым ліку фінансава, кансультацыямі. Шукайце і знойдзеце — бадай што ўніверсальнае правіла.

Кіраўніца мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Вольга Рэнш з Эдуардам Вайцяховічам знаёмая добра, і яна адзначае яго персанальную зацікаўленасць у справе, бо добры праект на паперы — гэта невялікі складнік поспеху. «Канешне, людзей старанных многа. Але ён — асаблівы. З усіх таленавітых, старанных людзей ён асаблівы, і гэтая асаблівасць у тым, што, калі слухаць яго планы, то аднаго жыцця не хопіць, каб іх рэалізаваць. І планы гэтыя дэталёвыя, распісаныя, не хапае толькі аднадумцаў, каб іх пераўтвараць у жыццё. Рэдкага розуму і старанасці чалавек», — агучвае, відаць, справядлівую характарыстыку Эдуарда Вольга Рэнш. Да слова, адзін з сумесных праектаў з IBB скіраваны на ўстойлівае развіццё Свірскага пасялковага савета, на тэрыторыі якога і знаходзіцца Камарова. То бок размова ідзе не пра вузкія інтарэсы аднаго чалавека, а комплексныя праграмы для пэўных рэгіёнаў.


Фота аўтара
Палац графа Старжынскага



Фота аўтара

### Як не піць гарэлку на працы

Каб працягнуць думку пра карысць міжнародных праектаў і абменаў, узгадаем Занарач. Гэта вёска таксама месціцца ў Мядзельскім раёне. Міжнароднае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне «ЭкаДом» (Мінск) сумесна з германскай дабрачыннай арганізацыяй «Дамы замест Чарнобыля» рэалізуе ў Занарачы гуманітарную праграму па будаўніцтву жылых дамоў для маладых сем'яў з дзецьмі, якія пражываюць на забруджаных ад аварыі на ЧАЭС тэрыторыях. Для сямей, якія хацелі пераехаць на чыстыя землі, была толькі адна ўмова — прымаць непасрэдны ўдзел у будаўніцтве дома па новай тэхналогіі.

Дамы гэтыя з чароту і гліны (аналагічная будоўля вядзецца цяпер у вёсцы Стары Лепель у Лепельскім раёне Віцебскай вобласці). Было тое ў 1996 годзе. Валянцін Харошка акурат з ліку нямногіх смелых людзей, якія першымі адважыліся пагадзіцца на такую авантуру. Хаця, па яго словах, было спачатку страшна. «Быў сакавік, мы прыехалі глядзець пляцоўку, і нам паказалі чыстае поле», — узгадвае, як пачыналася жыццё ў Занарачы Валянцін. Першы раз з васьмі энтузіястаў засталося толькі трое. Але, паглядзеўшы на поспех справы, пазней да сумеснага праекту па будаўніцтву дамоў далучыліся іншыя сем'і. Валянцін Харошка гаворыць, што не шкадуе пра свой пераезд, бо «ў Мінскай вобласці ўсё ж ёсць нейкі рух», хаця і з гэтай вёскі моладзь з'язджае ў гарады. Ён заўважае, што знаёмства з немцамі, якія не толькі дапамагалі фінансава, але і прыязджалі валанцёрамі на будоўлю, паўплывала на светапогляд людзей. «У нас фактычна ніхто не п'е на працы — вось што мы ад іх узялі», — рэзюмуе Валянцін.

▸ ЛЁСЫ

# ЗНІКНЕННЕ ГОМЕЛЬСКАГА МАСТАКА

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Вулічны мастак Валер Ляшкевіч — гарадская легенда Гомеля. Болей за 18 гадоў ён маляваў, прадаваў свае карціны, збіраў ахвяраванні і проста жыў на вуліцы.**

Гамельчукі маглі штодня бачыць яго ў цэнтры горада — на Савецкай ля парка. «Ён пад маімі вокнамі стаяў, смешны такі. Добры нейкі. Увесь час пасміхаўся. Мне падавалася, што ён трошку, як бы сказаць, дзіўнаваты, але ж усе мастакі крышку «не такія», — гаворыць гамяльчук Яўген. Карэнны жыхар Гомеля Андрусь прыгадвае: «Я сам не мастак, але ягоныя карціны падаваліся мне файнымі. Ён прыроду, не памятаю, каб маляваў. У асноўным мадэрнізм і сюррэалізм. Я заўсёды, калі ішоў з заняткаў, драбязу яму пакідаў».

## Піцерскі след

Знікненне Валера Ляшкевіча заўважылі ўсе. З лета мужчына перастаў з’яўляцца на сваім сталым месцы працы-жыхарства. Шукаць беспрытульнага — справа няўдзячная. Ці мала што магло стацца з 62-гадовым бадзягам, нават калі ён усім вядомы ў горадзе мастак. Паводле агульнадаступных біяграфічных звестак, яго карціны ёсць і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Мы патэлефанавалі ў музей, каб высветліць, ці сапраўды гэта так. Супрацоўніцы музея перагледзелі дакументы і... знайшлі адну карціну Ляшкевіча ў фондзе. Праўда, не ў аддзеле беларускага жывапісу, а ў аддзеле арыгінальнай графікі — менавіта там знаходзіцца карціна «Жаночы партрэт», выкананая алоўкам у 1983 годзе.

Восенню ў інтэрнэце пачалі з’яўляцца тыповыя паведамленні — маўляў, бачылі падобнага да Ляшкевіча ў Санкт-Пецярбургу. Пазней здагадкі знайшлі фотапацвярджэнне — гамяльчук Валер Ляшкевіч сапраўды знаходзіцца ў Піцеры і малюе ажно на Неўскім праспекце.

Гэта нам пацвердзіў і...сам Валер Ляшкевіч, якога ўдалося знайсці праз ягоных маладых піцерскіх сяброў — дзякуй, сучасныя тэхналогіі відэасувязі дазваляюць пагутарыць з чалавекам і на адлегласці ў 900 кіламетраў. Праўда, апынулася няпростым спалучыць новыя тэхналогіі і мастака ва ўзросце. Адзін яго з маладых піцерскіх «апекуноў» Сардж Мадоўскі для нашай размовы двойчы прыязджаў да Ляшкевіча з ноўтбукам. Калі першы раз мастак наўпрост не дачуў нашых пытанняў, дык другі раз з дапамогай навушнікаў Валер Ляшкевіч ахвотна далучыўся да працэсу глабалізацыі і змог асабіста распавесці гісторыю вымушанага перасялення.

## Дысідэнт без месца жыхарства

А гісторыя такая: Валер Ляшкевіч быў... выгнаны з Беларусі. Нягледзячы на тое, што мужчына



Фота Эрыкі Парфёнавай

Вулічны мастак Валер Ляшкевіч

нарадзіўся пад Гомелем, ён мае расійскі пашпарт.

«Спачатку мяне пасадзілі ў Гомелі на 12 сутак у ізалятар, а пасля дэпартавалі: вывезлі ў кайданках пад Мінск у аэрапорт ды пасадзілі на самалёт да Пецярбурга. Дэпартавалі на год, сказалі: да траўня не вяртацца, іначай пасадзяць на 8 месяцаў», — мастак называе сваё выгнанне дэпартацыяй, аднак у ягоным пашпарце няма ніякіх адпаведных пазнакаў. Хутчэй за ўсё, праваахоўнікі папросту вывезлі Ляшкевіча з гораду па сваёй ініцыятыве ці па чыімсьці загадзе і сказалі нешта кшталту: «Каб год тут не бачылі». Мужчына жыў у Гомелі блізу 20 гадоў, але за гэты час не займеў сталай рэгістрацыі, а ад пражывання ў інтэрнаце ці начлежцы мастак, якому было цяжка дзяліць малы пакойчык з далёкімі ад творчасці людзьмі, сам свядома адмовіўся — абраў пад’езды ды лесвічныя пляцоўкі.

«Мне прапаноўвалі інтэрнат, але як я магу жыць з былымі зэкамі? Я не п’ю, не палю, а яны пасля турмы ўжываюць наркотыкі. Так немагчыма маляваць», — гаворыць Валер Ляшкевіч. Але за што выганяць земляка, які вёў беспрытульны лад жыцця ўжо шмат гадоў ды паспеў за гэты час стаць гарадской знакамітасцю? У Піцеры Валера Ляшкевіча называюць дысідэнтам і лічаць, што яго выселілі з гораду па палітычных матывах — маўляў, мастак часта прысвячаў творчасць актуальным палітычным падзеям.

Гамельчукі прыгадваюць з гэтым. «Ён шмат абыгрываў тэму інтэграцыі з Расіяй — маляваў, як Лукашэнка цалаваўся з Ельцыным. Часта ўстаўляў выяву Лукашэнкі на фоне чаго-небудзь правакацыйнага. У яго карцінах была маляваная сатыра. Можа, вочы мазоліў залішне — ён стаяў метраў за 200 ад КДБ, побач — адміністрацыя Цэнтральнага раёна, а 200 метраў улева — там абласная міліцыя. Увесь «бамонд» праз яго штодня на працу хадзіў», — гаворыць Яўген.

Гамяльчук Андрусь дадае, што Валер Ляшкевіч добра ведаў беларускую мову: «Ён размаўляў па-беларуску. Памятаю, калі мы арганізоўвалі канцэрт беларускамоўных бардаў, я даў улётку і яму — дык ён паставіў яе ў рамку побач са сваімі карцінамі, каб усе людзі маглі бачыць аб’яву». Сярод апублікаваных твораў мастака ў інтэрнэце я знайшла карціны «Чарнобыльскі звон» ды «З Васілём Быкавым».

Сам Валер Ляшкевіч адмаўляе чыста палітычныя матывы свайго выгнання: «Я не дысідэнт. Я малюю збольшага не на палітычныя тэмы, а на сацыяльныя. Галоўная наша праблема — бездухоўнасць, яе выкрываю ў сваіх карцінах». Паводле мастака, ён сапраўды намазоліў вочы «мафіі» — так мужчына называе мясцовыя ўлады. «Здзекаваліся, хацелі ўсялякі пазбавіцца ад мяне, выжывалі з горада. Розным замежнікам хутка даюць беларускае грамадзянства, а мне так і не далі. Гавораць — ідзі зарэгіструйся. А дзе ж я зарэгіструюся? У мяне ёсць сваякі ў Гомелі, але болей як тыдзень яны жыць у сябе не давалі — маўляў, няма магчымасці. Я з імі цяпер не кантактую. А без рэгістрацыі — нікуды! Хацеў запісацца ў Саюз мастакоў — і там гавораць, што трэба рэгістрацыя».

Аднойчы ў Гомелі мастака збіў невядомы чалавек, якога, на думку Ляшкевіча, падаслалі наймысна: «Я піў малако ў кавярні, як падышоў нейкі мужчына ды пляснуў па кубку так моцна, што малако пырснула і запэцкала ўсё навокал. Пасля сеў у куце ды назіраў за мною. Як я выходзіў, ён кінуўся да мяне і даў па твары, па рэбрах. Нос паламаў. Міліцыя тады ў гэтай справе так і не разабралася».

## Група падтрымкі

Па вымушаным прыездзе ў Піцер Валер Ляшкевіч некалькі месяцаў жыў на вуліцы ды ў пад’ездах, трымаў карціны ў камеры захоўвання на вакзале, пакуль аднойчы яго не пабачыла маладая фатограф Эрыка Парфёнава. Яна спачатку проста фатаграфавала каларытнага мастака, а пасля вырашыла пазнаёміцца. Дзяўчыну ўразіла як творчасць Ляшкевіча, так і ягоная складаная сітуацыя, таму яна імгненна з дапамогай Сарджа Мадоўскага стварыла ў сацыяльнай сетцы групу ў падтрымку мастака, якая цяпер налічвае каля шасці тысяч удзельнікаў.

Менш чым за месяц маладыя піцерцы сабралі тысячу долараў на патрэбы мастака — знялі прасценькі нумар у гатэлі (кватэра выходзіла даражэй), набылі неабходныя матэрыялы для жывапісу, стварылі рахункі, куды любы чалавек можа ахвяраваць грошы для Валера Ляшкевіча. Мастак жыве не толькі на ахвяраванні людзей — ён працягвае прадаваць свае карціны ды рэпрадукцыі, але цалкам забяспечваць сябе пакуль што не можа.

«У асноўным мае карціны купляюць савецкія людзі. За арыгінал плацяць ад 2 да 10 тысяч расійскіх рублёў, за рэпрадукцыі — менш. Еўрапейскія турысты шмат фатаграфуюць мяне, але мала што набываюць. Вунь нядаўна два амерыканцы выпрасілі арыгіналы бясплатна. Спачатку жанчына 3 дні хадзіла, вывarочвала кішэні, паказвала, што нічога не мае, — я ёй вырашыў падарыць. А пасля амерыканец-марак усё ўломваў аддаць яму карціну за тысячу рублёў. А тая тысяча — два разы кавы ў Піцеры папіць. Я яму кажу — аддам за тысячу, дык ты не будзеш цаніць карціну, а як падарую — будзеш мяне памятаць. Таму падарыў», — распавядае пра свае піцерскае жыццё Валер Ляшкевіч.

Дарэчы, мы заспелі Валера Ляшкевіча за наразаннем кардона для вывешвання карцінаў — у Санкт-Пецярбургу ўжо прайшлі дзве невялічкія выставы-продажы твораў Ляшкевіча. «Гэта творчыя сустрэчы з моладдзю ў мясцовых «культурніцкіх» кавярнях. Паказваю маладым свае карціны, распавядаю гісторыі іх малявання, тлумачу сімвалы. Хоць гэтыя сустрэчы нешматлюдныя — некалькі дзясяткаў чалавек прыходзіць, — але яны мяне натхняюць», — прызнаецца мастак.

## «Гамельчукі, чакайце мяне назад»

Падаецца, лірычная гісторыя атрымала «хэпі-энд», але Валер Ляшкевіч шчыра прызнаўся сваім піцерскім апекунам, што марыць… вярнуцца ў Гомель і цяпер спрабуе аформіць усе неабходныя для гэтага паперы. Камусьці гэта можа падацца бязглуздзіцаю, камусьці — няўдзячнасцю, але піцерская моладзь гатова падтрымаць любое рашэнне Ляшкевіча, абы б ён пачуваўся шчаслівым. «Вы не думайце, што тут ужо так усё бясклапотна, — аспрэчвае мае ўражанні Ляшкевіч. — Як пацяплее — трэба зноўку будзе ісці на вуліцу. Здымаць пакой усё-ткі дорага, доўга за ахвяраванні жыць не будзеш. Нядаўна атрымаў пенсію 5 тысяч рублёў. Тры тысячы ўжо аддаў за пакой, а 2 тысячы засталіся на прадукты. На вуліцах тут ганяе свая мафія. Гэтая заўсёдная няўпэўненасць у заўтрашнім дні і небяспека не даюць сканцэнтравацца на творчасці. Ды і вулічных мастакоў накшталт мяне ў Піцеры хапае, а ў Гомелі я быў унікальным. Там ад мяне болей карысці».

Валерый Ляшкевіч збіраецца вярнуцца ў траўні, калі пройдзе год з моманту дэпартацыі. Ён нават схадзіў на кансультацыю ў аддзяленне беларускай амбасады, дзе яго запэўнілі, што ён зможа бесперашкодна прыехаць на Беларусь. Праўда, не ведае, ці вернецца ў сам Гомель.

«Можа, у якім мястэчку пад Гомелем буду прасцей атрымаць жыллё — зараз жа столькі хатаў пустуе! Можна знайсці і дом, дзе жыць, і майстэрню, дзе маляваць. А існаваць буду з пенсіі — яе з Расіі могуць перасылаць, я даведваўся. Можа па-за Гомелем мясцовыя ўлады будуць чалавечнымі, пойдуць насустрач і дзе-небудзь нарэшце зарэгіструюць. У любым выпадку вярнуся. Усе ж едуць на Радзіму паміраць», — нечакана рэзюмуе мастак. На маё здзіўленне пачуць думкі пра смерць ад такога энергічнага і бадзёрага мужчыны, мастак сумна адказвае: «Дык немалады я ўжо, і хваробаў хапае. Вы думаеце, гэтая дэпартацыя ў мае гады і жыццё ў Піцеры дадалі мне здароўя?»

У Гомелі таксама чакаюць вяртання Валера Ляшкевіча. «Я зразумеў, каго мы страцілі, толькі тады, калі ён знік», — гаворыць гамяльчук Яўген. Падобных прызнанняў сярод жыхароў Гомеля — безліч! І маладыя, і сталыя людзі праз створаную ў інтэрнэце групу падтрымкі дзясяткамі шлюць Ляшкевічу вітанні і спадзевы на яго вяртанне. Невядома, ці знойдуцца ў Гомелі свае самаахвярныя Эрыка і Сардж, але, магчыма, пасля нечаканай страты Ляшкевіча гамельчукі пачнуць берагчы сваю гарадскую легенду.

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 9 красавіка, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм АТН «Пінскі дзівасіл» цыклу «Зямля беларуская».
**11.00** Крымінальная меладрама «Надзея».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад».
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Дзённік «Еўрабачання».
**22.55** Серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад».

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Уладзіслаў Галкін. Усмешка на памяць».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Паліцыянты і злодзеі».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Гонар нацыі».
**22.20** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.25** «Першы клас».
**00.35** «Несакрэтныя матэрыялы».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**09.50** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Мінчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Мама, не гаруй 2». Расія.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.35** Школа рамонту.
**11.40** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 1-я - 3-я, закл., серыі.
**16.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.50** Драматычны серыял «На нажах».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Сямейная камедыя «Я - Цэзар».
**20.45** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Авертайм.
**23.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**00.00** Меладрама «Пяшчотны пацалунак» (Вялікабрытанія-Германія-Бельгія).

### Беларусь 24

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** Праграма «Даведнік».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Падарожжа ў іншы горад».
**12.20** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40, 02.00** Праграма «Саюзнікі».
**19.20** Праграма «Усёды жыццё».
**19.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.30** Праграма «Беларусь сёння».
**21.30** Праграма «Свет спорту».
**22.05** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.55** Выжыць у катастрофе.
**00.50** Мяжа трываласці.
**02.40** Выжыць у катастрофе.
**04.40** Мяжа трываласці.
**05.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00, 12.00, 16.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 63 кг.
**01.00, 10.00, 13.00, 19.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 77 кг.
**02.00** Футбол: Еўрагалы.
**02.15, 11.00** Вось дык так!!!
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**14.15** Усе віды спорту.
**14.30** Фехтаванне: Камандны Чэмпіянат свету. Кіеў.
**17.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 69 кг.
**20.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 85 кг.
**22.00** Бокс: - Цяжкая вага.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.10** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 2 серыя.
**08.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.05** «Час гонару», серыял.
**09.50** «Горад над ракой Чорнага Цмока», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.50** Эксперт.
**11.20** «Рэнэ», дак. фільм, 2009 г., Чэхія.
**12.20** Зона «Свабоды».
**12.50** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 2 серыя.
**13.20** «Я помнік сам сабе», дак. фільм, 2009 г., Украіна.
**14.20** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.45** «Час гонару», серыял.
**15.35** Эксперт.
**16.05** «Міс Мокрая Майка», камедыя, 2002 г., Польшча.
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.35** Вагон.
**17.45** Навігатар.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Зона «Свабоды».
**18.40** Вагон.
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.30** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Гарачы каментар.

## 10 красавіка, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**10.05** Арэна.
**10.30** Культурныя людзі.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад-2» (Расія).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад-2» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Асяроддзе пасялення.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Бэла Ахмадуліна. «А напрыканцы я скажу».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Мама, не гаруй 2». Расія.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Дзяўчына з Джэрсі». ЗША.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Вялікая нафта». Серыял.
**21.35** Прэм'ера. «Правакатар». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.45** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Драматычны серыял «На нажах».
**11.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**12.55** Авертайм.
**13.25** Сямейная камедыя «Я - Цэзар» (Францыя).
**15.20** Кінаспробы.
**16.10** Цела чалавека.
**16.45** Драматычны серыял «На нажах».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Беларусь - Швецыя. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Класічны дэтэктыў «Госфард парк» (Вялікабрытанія-ЗША).

### Беларусь 24

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. серыял «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Агульны рынак».
**09.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя!».
**12.20** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**22.05** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усёды жыццё».
**03.30** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**05.25** Праграма «Дыяспары».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.00** Рыба-меч.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**03.40** Рыба-меч.
**04.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00, 13.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 85 кг.
**01.00, 09.45** Фехтаванне: Камандны Чэмпіянат свету. Кіеў.
**09.30** Фітнэс.
**10.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**12.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 69 кг.
**14.00** Аўтагонкі: Auto GP. Маракеш - Гонка 1.
**15.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 75 кг.
**16.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 85 кг.
**17.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 94 кг.
**19.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 75 кг.
**20.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 105 кг.
**22.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб.
**23.00** Баявыя мастацтвы.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**09.05** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**09.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.45** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.20** «Ранча», серыял: 46 серыя.
**12.10** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**12.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.05** «Міс Мокрая Майка», камедыя, 2002 г., Польшча.
**14.00** «Тэра постсаветыка. Байкал», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.25** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.35** «Адмысловы цягнік», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.10** Рэпартэр.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Бландзінка», серыял: 2 серыя.
**22.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 11 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Прэм'ера! Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладрама «Батанічны сад».
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Тэлефільм АТН «Урокі бізнэсу».
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Батанічны сад».

### АНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальная хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсер. фільм. Закл. серыя.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Наша Беларашa».
**00.50** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.45** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Правакатар». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Вялікая нафта». Серыял.
**21.35** Прэм'ера. «Правакатар». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.45** «Дзіўная справа».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**11.15** Цела чалавека.
**11.50** Наперад у мінулае.
**12.30** Жансавет.
**13.00** Класічны дэтэктыў «Госфард парк» (Вялікабрытанія - ЗША).
**15.30** Мультфільм.
**15.40** Бухта капітанаў.
**16.20** Ясі і худзей.
**16.50** Драматычны серыял «На нажах».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Беларусь - Швецыя. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** «Калі дрэвы былі вялікімі» (СССР).
**23.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Манчэстэр Сіці - Вэст Бромвіч.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**09.25** Праграма «Даведнік».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Усім - дзякуй».
**12.20** Дакументальны фільм «Галіна Шурэпава - чалавек амфібія».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**20.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05, 23.05** Мастацкі фільм «Люстэрка».
**00.30** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.20** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.55** Тэлесерыял «Ваўчыца».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.55** Самыя трывалыя прылады.
**00.50** Адпачываючая нацыя.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.40** Самыя трывалыя прылады.
**05.40** Адпачываючая нацыя.
**06.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00** Ралі.
**00.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 53кг.
**01.30, 09.30, 13.00, 19.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 62 кг.
**10.30** Алімпійскі часопіс.
**11.00** Футбол: Еўрагалы.
**12.00, 16.15** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 53 кг.
**14.00** Веласпорт: Парыж-Рубэ.
**15.15** Футбол: Еўрагалы.
**17.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 58 кг.
**20.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 69 кг.
**22.00, 22.30, 23.40** Усе віды спорту.
**22.20** Абранае па серадах.
**22.25** Навіны коннага спорту.
**22.40** Гольф: Мастэрс.
**23.45** Гольф: Еўрапейскі тур.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**08.20** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.55** На колах.
**09.25** Рэпартэр.
**09.50** Сальда (эканамічная праграма).
**10.05** Эксперт.
**10.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**10.50** «52 адсоткі», дак. фільм, 2007 г., Польшча–Расія.
**11.10** «Адмысловы цягнік», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**11.35** «Ранча», серыял: 47 серыя.
**12.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**12.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**13.50** Два на два (тэледыскусія).
**14.15** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.10** Сальда (эканамічная праграма).
**15.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.30** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.00** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**16.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «Машына зменаў», тэлесерыял: 11 серыя.
**17.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.35** «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Сальда (эканамічная праграма).
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Вагон.
**20.40** Навігатар.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**22.10** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**23.05** Два на два (тэледыскусія).
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 12 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10–15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дэтэктыў «Сіцыліянская абарона» (СССР).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дэтэктыў «Сіцыліянская абарона» (СССР).

### АНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05–16.00** Тэхнічная прафілактыка.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Адрыў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** Прэм'ера АНТ: «Твая Тэрыторыя».
**00.35** Прэм'ера «Аляксандр Лабас. Касмічны палёт маленькай птушачкі».
**01.35** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00, 07.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Прыгоды дылетанта».
**09.00–15.00** Прафілактыка.
**15.00** «Званая вячэра».
**15.40** «Правакатар». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Вялікая нафта». Серыял.
**21.30** Прэм'ера. «Правакатар». Серыял. Заключная серыя.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.45** «Яшчэ не вечар».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05–15.00** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** Страсці па культуры.
**15.45** Вышэй за дах.
**16.20** Ясі і худзей.
**16.50** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Фантастычная драма «Салярыс» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**23.10** Час футболу.
**23.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Простая мова».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм «Па галоўнай вуліцы з аркестрам».
**11.05** Мастацкі фільм «Па галоўнай вуліцы з аркестрам» (Працяг).
**12.20** Дакументальны фільм «Леў Яшын - Эдуард Стральцоў. Перакрыжаванні».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Смяротныя гульні».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Дакументальны фільм «Леў Яшын - Эдуард Стральцоў. Перакрыжаванні».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery Channel

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.15** Гольф: Гольф Клуб.
**00.20** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**01.00** Веласпорт: Парыж-Рубэ.
**01.30, 09.45, 13.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 69 кг.
**09.30** Футбол: Еўрагалы.
**11.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 58 кг.
**14.00** Усе віды спорту.
**14.30** Футбол: Еўрагалы.
**14.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**15.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**16.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 58 кг.
**17.30** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Жанчыны. 63 кг.
**19.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 69 кг.
**20.00** Цяжкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Турцыя - Мужчыны. 77 кг.
**22.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**08.30** «Бландзінка», серыял: 2 серыя.
**09.15** «Машына зменаў», тэлесерыял: 11 серыя.
**09.45** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.30** «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**10.50** Два на два (тэледыскусія).
**11.15** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**12.00** «Зямля», дак. фільм, рэж. Віктар Аслюк, 2010 г., Беларусь.
**12.30** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**13.25** «Бландзінка», серыял: 2 серыя.
**14.10** «Машына зменаў», тэлесерыял: 11 серыя.
**14.40** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**15.25** «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**15.45** Два на два (тэледыскусія).
**16.10** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял: 13 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Генацыд армянаў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**22.45** «Палітыканы», серыял: 3 серыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 13 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Тэлефільм АТН «Скрыжалі зямлі беларускай».
**11.00** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія). 3-я серыя.
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**13.05** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**15.50** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае токшоў.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**18.15** Зона камфорту.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Уральская каруначніца» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**22.55** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Фільм-катастрофа «Сутыкненне з безданню» (ЗША).

**ОНТ**

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».
**22.35** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.15** Прэм'ера. Фільм «Дом ветру».
**02.15** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Правакатар». Серыял. Заключная серыя.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Елкі». Расія, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** «Механічны апельсін».
**00.25** «Выклік на мільён даляраў».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Драматычны серыял «На нажах» (Расія).
**11.05** Ясі і худзей.
**11.35** Школа рамонту.
**12.40** Час футболу.
**13.20** Страсці па культуры.
**14.05** Фантастычная драма «Салярыс» (ЗША).
**15.45** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**16.45** Жансавет.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Фінал. Матч 1-ы.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Фактар сілы.
**23.55** Камедыя «Сямейка Адамс» (ЗША).

**МІР**

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**05.20** Праграма «Таямніцы манежа».
**06.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.00** Навіны Садружнасці.
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**09.25** Праграма «Смачны свет».
**10.00** Навіны Садружнасці.
**10.05** Мастацкі фільм «Час для развважання».
**11.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Час для развважання» (Працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.00** Навіны Садружнасці.
**17.05** Праграма «Правілы жыцця».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Зроблена ў СССР».
**19.10** Мастацкі фільм «Сямейная вячэра».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Праграма «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.20** Праграма «Любімыя акцёры».
**22.50** Мастацкі фільм «Вяселле з пасагам».
**01.05** Праграма «Добрыя жарты».
**02.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».

**Discovery CHANNEL**

**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**11.05** Дзёрзкія праекты.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Пятая перадача.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**19.20** Дзёрзкія праекты.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Насланне.
**04.35** Як гэта працуе.

**EUROSPORT**

**00.00** Пра рэстлінг.
**00.30** Пра рэстлінг.
**01.30** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн - Кваліфікацыйны раўнд.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат светупа велагонках на трэку. Мельбурн.
**16.30** Конны спорт. Агляд тыдня.
**16.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**18.00** Усе віды спорту.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон - 1/4 фіналу.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**08.00** «Час гонару», серыял.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 13 серыя.
**09.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**10.30** «Генацыд армянаў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**11.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**11.50** «Палітыканы», серыял: 3 серыя.
**12.40** «Час гонару», серыял.
**13.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.50** «Школа на санцапёку», серыял: 13 серыя.
**14.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.45** «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.25** «Генацыд армянаў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**16.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 2 серыя.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Эпоха Барадуліна», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**22.10** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**00.25** Канцэрт царкоўнай музыкі.
**01.25** Аб'ектыў.
**01.50** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 14 КРАСАВІКА, СУБОТА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Да цешчы на бліны.
**10.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў» (Францыя).
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**13.20** Тэлефільм АТН «Саўндтрэк дажыннёю ў жыццё».
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыя «Аперацыя «Ы» і іншыя прыгоды Шурыка» (СССР).
**17.15** Дзённік «Еўрабачання».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.00** Навіны.
**19.10** Камедыя «Каханне са слоўнікам» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.35** Дзень спорту.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**22.00** «Беларускі вакзал» (СССР).
**23.55** Святочнае богаслужэнне. Прамая трансляцыя.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.15** Трылогія «Няўлоўныя мсціўцы».
**12.45** «Новыя прыгоды няўлоўных».
**14.15** «Хвіліна славы. Мары спраўджваюцца».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Карона Расійскай імперыі, або Зноў няўлоўныя».
**18.40** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**19.25** АНТ прадстаўляе: «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Фільм «Дзеці стэпу».
**01.00** Камедыя «Жывіце ў радасці».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** Фільм «Граф Монтэ-Крыста». Францыя-Італія, 1953 г. 1-я серыя.
**09.05** «Я - вандроўца».
**09.30** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Елкі». Расія, 2010 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.10** Фільм «Жыве такі хлопец». СССР, 1964 г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Пан». Украіна, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Мільянер з трушчоб». Вялікабрытанія, 2008 г.
**22.20** «Зорны рынг».
**23.35** Фільм «Маленькі Манхэтэн». ЗША, 2005 г.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Дабравест.
**07.30** Мір вашай хаце.
**07.40** Скарбніца Гомельшчыны.
**08.05** Лірычная кінааповесць «Сярожа» (СССР).
**09.35** Пра мастацтва.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Сакрэт фірмы.
**10.40** Школа рамонту.
**11.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.15** Шоў «Інтуіцыя».
**13.15** Наперад у мінулае.
**13.50** Беларуская кухня.
**14.25** Лірычная кінааповесць «Сярожа» (СССР).
**16.10** Дакументальны цыкл «Вышэйшая мера…».
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Норвіч - Манчэстэр Сіці.
**18.50** «На шляху да Эўра-2012».
**19.20** Камедыя «Шчыра Ваш…» (СССР).
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Меладрама «Гісторыя кахання» (ЗША).
**23.05** Шоў «Інтуіцыя».

**МІР**

**05.00** Дак. фільм «Гісторыя ВІА».
**06.00** Праграма «Даведнік».
**06.30** Мастацкі фільм «Грузінская хроніка XIX стагоддзя».
**07.55** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** Праграма «На шашлыкі».
**10.10** Праграма «Таямніцы манежа».
**10.40** Тэлесерыял «Справа была ў Гаўрылаўцы».
**13.30** Дак. фільм «Доказы віны».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Мастацкі фільм «Замежны жаніх».
**17.10** Мастацкі фільм «Мэта жыцця».
**20.30** Праграма «Усюды жыццё. Сябры».
**21.00** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**21.50** Каталіцкі Вялікдзень.
**01.10** Дак. фільм пра Сяргея Бандарчука.
**02.50** Тэлесерыял «Справа была ў Гаўрылаўцы».

**Discovery CHANNEL**

**08.25** Заезды.
**10.10** Мега-будоўлі.
**12.00** Рукатворныя цуды: Азія.
**12.55** Гігантскія будоўлі.
**13.50** Будаўнічая дапамога.
**17.30** Грандыёзныя пераезды.
**18.55** Патрабуецца зборка.
**19.20** Рукатворныя цуды: Азія.
**23.55** Выжыць любым коштам.
**06.40** Выжыць любым коштам.

**EUROSPORT**

**01.45** Ралі: Ралійная серыя IRC Ірландыя - Дзень 1.
**02.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.30** Ралі: Ралійная серыя IRC Ірландыя - Дзень 1.
**10.00** Фехтаванне: Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Масква.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**16.00** Акадэмічнае веславанне: Оксфард vs Кэмбрыдж.
**17.00** Усе віды спорту.
**17.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон - 1/4 фіналу.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон.
**23.45** Кёрлінг: Чэмпіянат светусярод мужчын. Базель. 1/2 фіналу.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Палітыканы», серыял: 3 серыя.
**08.20** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 2 серыя.
**08.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.15** Калыханка для самых маленькіх.
**09.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.00** «Генацыд армянаў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**10.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.20** «Бландзінка», серыял: 2 серыя.
**12.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**12.15** «Эпоха Барадуліна», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**13.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** Калыханка для самых маленькіх.
**13.50** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**14.45** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 21 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Завітай да мяне ў сне», 1996 г., Польшча.
**19.15** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца».
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «25 цэнтаў», маст. фільм, 1995 г., ЗША.
**23.05** «Мент», дэтэктыўны серыял: 17 серыя.
**23.50** «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**01.40** Аб'ектыў.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПАРТЫЙНЫ ПАНОПТЫКУМ

Алег НОВІКАЎ

**Пасля падпісання Мядзведзевым закону пра лібералізацыю працэдуры рэгістрацыі партый, палітычная сістэма Расіі аказалася на мяжы вялікіх перамен. Пра намер пераўтварыцца ў новыя партыі ўжо заявіла больш за 80 палітычных аб'яднанняў. Сярод іх ёсць абсалютна экзатычныя.**



На думку палітолагаў, патэнцыйныя новыя расійскія партыі можна падзяліць на чатыры катэгорыі. Па-першае, традыцыйныя арганізацыі самай рознай ідэалогіі. Па-другое, партыі, створаныя вядомымі паліттэхнолагамі пад свае праекты. Да трэцяй катэгорыі належаць партыі-фантомы — копіі калісьці вядомых партый, якія спынілі сваё існаванне, напрыклад, «Родина» ці Саюз правых сіл (СПС). І, нарэшце, — так званыя партыі фрыкаў (ад англ. freak — дзівак), арганізацыі без электаральных перспектыў, кансалідуючай платформай для якіх можа служыць абы-што. Вось спіс найбольш цікавых тусовак, якія вырашылі стаць партыямі і падаліца ў вялікую палітыку.

Манархісты. Як толькі пачалі хадзіць чуткі пра рэгістрацыю партый, манархісты заварушыліся. У выніку на момант, калі рэгістрацыю нарэшце дазволілі, існуюць як мінімум тры манархісцкія цэнтры. Самы незвычайны партыйны полюс — Манархісцкая партыя мільянера Анатоля Бакава, які раней набыў востраў у Індыйскім акіяне і абвясціў на ім Расійскую імперыю. У жніўні плануецца ў рамках спецыяльнага Сабору вызначыць, хто з прадстаўнікоў Раманавых будзе яго імператарам. На гэтым Бакаў не збіраецца прыпыняцца. Ён рыхтуе акупацыю Антарктыды, якая, на яго думку, павінна належаць Расійская імперыі, паколькі лядовы кантынент адкрыла ў 1820 годзе руская экспедыцыя Лазарава—Белінсгаўзена.

Не застануцца ўбаку ад партыйнага будаўніцтва і казакі. Так, 26 сакавіка на базе казацкіх арганізацый Арэнбурга паўстала ініцыятыўная група па стварэнні Казацкай палітычнай партыі. Сярод сваіх мэтаў КПП лічыць «вяртанне казацкіх земляў і ўласнасці, прызнанне генацыду казацтва на дзяржаўным узроўні, актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны». Цяпер уральскія казакі вядуць перамовы з казакамі з іншых рэгіёнаў. Сярод іх аргкамітэт партыі, назву якой нават цяжка вымавіць: Народная казацкая кансалідацыя процідзеяння служыбоўцам, што парушаюць законы, Канстытуцыю і прыродныя правы казакоў на самаарганізацыю і самакіраванне «Саюз казацкіх фармаванняў РФ». З той жа оперы яшчэ адна казацкая партыя: «Сусветнае братэрства казацкага і афіцэрскага спецпрызначэння».

Расійская Партыя аматараў піва (ПАП), створаная яшчэ ў далёкім 1993 годзе, зноў вырашыла паспрабаваць свае сілы ў палітычнай барацьбе. Першая спроба, нагадаем, апынулася не зусім удалай, хоць у 1995 годзе на выбарах у Дзярждуму Партыя аматараў піва сабрала больш чатырохсот тысяч сябраў, але ўсё ж вынік яе дзейнасці быў прадвызначаны: неўзабаве яна была зачынена. Цалкам меркаваць пра бягучы стан партыі цяжка, дзейнічае толькі некалькі рэгіянальных сайтаў. Мяркуючы па структуры кіравання партыі, у якой фігуруюць такія назвы, як «Фракцыя аматараў цёмнага і светлага піва» і «Фракцыя аматараў закускі і аматараў воблы», шмат каму гэта палітычная арганізацыя будзе да густу.

Партыя «Субтрапічная Расія» — экзатычная назва для расійскай палітычнай ды геаграфічнай рэальнасці. Галоўны лозунг партыі — падвышэнне тэмпературы навакольнага асяроддзя да +20 градусаў. Гэтыя радыкальныя патрабаванні высоўваюць чатыры партыйных барадатых «мудраца», чыё калектыўнае фота змешчана на галоўнай старонцы іх афіцыйнага сайта.

«Партыя любові», лідар якой — Аляксандр Данской, былы мэр Архангельска, у свой час кандыдат на пасаду прэзідэнта РФ. Нейкі час Данской адсутнічаў у палітыцы, аднак цяпер імкліва вяртаецца пад лозунгамі барацьбы за татальную празрыстасць і сумленнасць. Аляксандр кажа: «Праграмы і ідэалогіі ў нас няма. І гэта прынцыповая пазіцыя. У мяне ёсць цікавасць пайсці ў Дзяржудму, прывесці туды сваіх сваякоў і зарабляць на гэтым. Усе палітыкі дзейнічаюць так, але я хачу займацца гэтым адкрыта». Слоган «Партыі любові» — «Рабуй, крадзь, адпачывай — чакай зваротнага сігналу».

Кангрэс федэралістаў — гэта тусоўка, якая нарадзілася на базе груп у сацыяльных сетках. Яна выступае супраць «гіперцэнтралізму, калі за ўсіх у нашай краіне «гаворыць Масква». На думку федэралістаў, «суб'екты Федэрацыі пераўтвораны ў феоды самадзяржаўнага «цэнтра». Кангрэс федэралістаў высоўвае пяць базавых патрабаванняў, галоўнае з якіх: «Вярнуцца да духу Федэратыўнай дамовы 1992 года пра тое, што рэспублікі (дзяржавы) у складзе Расійскай Федэрацыі валодаюць усёй паўнатой дзяржаўнай (заканадаўчай, выканаўчай, судовай) улады на сваёй тэрыторыі, акрамя тых паўнамоцтваў, якія добраахвотна дэлегаваны імі на агульнафедэральны ўзровень». Сярод ініцыятараў Кангрэсу такія цікавыя аб'яднанні, як Балтыйская рэспубліканская партыя або Група «Царства Казанскае».

Не засталіся ўбаку ад глабальных палітычных трэндаў і сэксуальныя меншасці. Мікалай Алексееў, заснавальнік маскоўскага гей-параду, абвясціў пра стварэнне структуры Партыя геяў, лесбіянак, бісэксуалаў, трансгендэраў і гетэрасэксуальных прыхільнікаў. Прадстаўнікі сэкс-меншасцяў паведамілі, што вымушаны ісці ў палітыку, каб адстойваць свае правы, таму што «ў Расіі ніводная палітычная партыя не выяўляе належным чынам інтарэсаў ЛГБТ-супольнасці», — тлумачыць Алексееў і яго паплечнікі свой крок.

Нельга абмінуць увагай і партыю «Курсам праўды і адзінства», якая творча развівае тэзісы вучэння пра біясферу. На думку заснавальніка партыі нябожчыка генерала Канстанціна Пятрова, галоўнае для Расіі зараз — устанавіць гармонію з рытмамі біясферы і Космасу, якія вызначаюць працу сацыяльных сістэм. Гэтыя запаветы рэалізуюць яго ідэйныя пераемнікі.

Застаецца сказаць, што наўрад ці ліміт на партыйную экзотыку ў Расіі вычарпаны. Так, у Швецыі дзейнічае Жанглёрская партыя, якая выступае за тое, каб у грамадстве па магчымасці як мага больш жангліравалі. А ў суседняй Украіне, напрыклад, існуе Партыя прыхільнікаў жанчын. Самаму старэйшаму партыйцу — 103 гады, ён жыве ў Херсоне і ўжо 4 разы ажаніўся.

Дарэчы, украінскі вопыт вельмі цікавы ў цяперашняй дыскусіі, якія наступствы будзе мець бум партыйнага будаўніцтва ў Расіі. Скептыкі кажуць, што мы маем справу з прафанацыяй партыйнага будаўніцтва на дзяржаўным узроўні. Сапраўды, прыклад той жа Украіны, дзе ў рэгістры Мінюсту больш за 200 палітычных партый, сведчыць, што вялікай ролі партыі фрыкаў у палітычным жыцці не адыгрываюць.

Аднак, з іншага боку, іх сталая наяўнасць сведчыць, што ў грамадстве ёсць запыт на такія праекты. Больш таго, шматлікія партыя фрыкаў аказаліся больш жывучымі за вялікія партыі, якія мелі каласальныя сродкі, адміністратыўны рэсурс, аднак не мелі нізавога энтузіязму. Так, амаль нічога не засталося ад украінскай Народна-дэмакратычнай партыі, якая ў часы Кучмы адыгрывала тую ж саму ролю, што і цяпер у Расіі адзінаросы. Але дзе цяпер тая НДП, якую чыноўнікі паважліва называлі «Наш дах — прэзідэнт»? Знікла. А вось партыя Саюз анархістаў Украіны (САУ), якая збіраецца пабудаваць анарха-камунізм пасля перамогі на выбарах, з канца 1990-х жыве і квітнее дзякуючы купцы фанатыкаў з Адэсы.




## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Першае. У санкцыях вінаватыя не Літва, і не Еўрапейскі саюз. Вінаватая Беларусь. Гэта ўлады Беларусі не клапоцяцца пра шараговых грамадзян, пра якіх так клапоцімся мы, калі яны вырашаюць, што выкананне смяротнага пакарання і ўтрыманне ў турмах кандыдатаў у прэзідэнты больш важнае за экспарт. Другое. Клопат «пра сваіх працаўнікоў» гучыць несур'ёзна… Гэта наскрозь блюзнерскі погляд на працоўнага чалавека, які можа прывесці да таго, што пралетар можа працаваць і на злачынца, галоўнае, што той плаціць зарплату. Трэцяе. Санкцыі патрэбныя не толькі Беларусі ці Еўропе. Яны патрэбныя і нам. Галоўнае, як мы ацэньваем, што пра гэтыя падзеі кажа наша сумленне. Сумленне нібы хамяк — або грызе, або спіць. Лепш хай грызе.

**«Delfi» (Літва)**

Рэпрэсіі ў Беларусі ўжо дасягнулі сваёй мяжы. Адзін з еўрапейскіх дыпламатаў паведаміў, што правал уплыву на Беларусь можа падарваць давер да ЕС, калі ўздзеянне не атрымаецца дасягнуць.

**«Le Figaro» (Францыя)**

У цяперашніх умовах само вядзенне дыялогу па мадэрнізацыі Беларусі запатрабуе ад еўрапейскіх структур жалезнай вытрымкі і цярпення. Таму што практычная рэалізацыя рашэнняў, што прымаюцца, будзе праектам доўгатэрміновым, які не прыносіць хуткага выніку — дарожнай картай дзеянняў, пра неабходнасць якой не раз нагадвалі апазіцыйныя палітыкі.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Беларускае кіраўніцтва выдатна разумее, што беларуская эканоміка не гатовая да рэальнай канкурэнцыі на адзіным рынку ЕЭП. Сутычка ў небе паміж дзяржаўнай «Белавіа» і прыватным «Аэрафлотам» азначае толькі пачатак працэсу цвёрдай канкурэнцыі паміж беларускім дзяржсектарам і рынкавай эканомікай Расіі і Казахстана. Спроба захаваць характар беларускай эканамічнай мадэлі ва ўмовах інтэграцыі будзе і далей прымушаць афіцыйны Мінск рабіць міжнародныя скандалы і канфлікты. Іншага шляху у А. Лукашэнкі папросту няма.

**«Politoboz» (Расія)**

Паводзіны Лукашэнкі, здаецца, азначаюць канец «флірту» Лукашэнкі з Захадам. У гэтай сітуацыі яму нічога не застаецца, як зноў звярнуцца да новых-старых партнёраў з Еўразійскага саюза — Расіі і Казахстану. Аднак Еўразійскі саюз не будзе мець вялікага ўплыву на рост ВУП і з'яўляецца выключна палітычнай гульнёй.

**«Nowa Europa Wschodnia» (Польшча)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ЕЎРА–2012 ПАД ПАГРОЗАЙ

З-за гвалтаўнікоў у краіну баяцца ехаць замежнікі. Менавіта так піша ўкраінская прэса са спасылкай на публікацыі ў замежных выданнях. Ва ўсім вінаваты выпадак з Аксанай Макар у Мікалаеве. Адсюль амаль панічныя настроі. «Украіна лічыцца не вельмі дэмакратычнай і бяспечнай дзяржавай, аднак здарэнне ў Мікалаеве можа паставіць гэта пад сумнеў», — паведамляе нямецкая штодзённая газета «Berlinertageszeitung» і робіць рэзюме: «Згвалтаванне ў Мікалаеве можа даць штуршок для выпраўлення сітуацыі. У адваротным выпадку турысты будуць асцерагацца ехаць ва Украіну ў ліпені на Еўра–2012». У сувязі з такімі чуткамі ўкраінскае МУС кажа, што нагоды для хваляванняў у замежных гасцей няма — сітуацыя на кантролі ў вышэйшых службовых асобаў, а падчас еўратурніру фанатам будзе забяспечана максімальная бяспека». Між тым, 29 сакавіка стала вядома, што Аксана Макар памерла. Гэтая страшная навіна выклікала шок ва ўкраінскім грамадстве. Цяпер палітолагі апасаюцца, што суд над гвалтаўнікамі ператворыцца ў нешта накшталт суду Лінча, што не будзе спрыяць добраму іміджу дзяржавы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ЦІ БЫЎ ПУШКІН АТЭІСТАМ?



Вядомы твор А.С. Пушкіна «Казка пра папа і яго работніка Балду» не дае жыцця РПЦ. Святар Свята-Траецкага сабора горада Армавір на Кубані айцец Павел выдаў тыражом 4000 асобнікаў казку Пушкіна ў рэдакцыі Васіля Жукоўскага. У гэтым варыянце адзін з галоўных герояў не поп, а купец. Як вядома, Жукоўскі, да якога пасля смерці паэта перайшлі правы на публікацыю пушкінскіх твораў, змушаны быў змяніць пушкінскі тэкст казкі перад першай публікацыяй у 1840 годзе з-за царкоўнай цэнзуры. Спецыялісты Дзяржаўнага музея А.С. Пушкіна ў Маскве тлумачаць, што Жукоўскі не раз змяняў некаторыя словы ў вершах свайго сябра, каб яны прайшлі царкоўную цэнзуру перад публікацыяй. Першапачатковы пушкінскі варыянт казкі, дзе Балда паступіў служыць да папа, быў апублікаваны ў 1882 годзе ў зборы твораў Пушкіна. Сёння царква жадае, па словах святара з Армавіра, аднавіць гістарычную справядлівасць і даказаць, што і Пушкін «не быў атэістам».

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. 65 ГАДОЎ ЛІКВІДАЦЫІ ПРУСІІ




Нямецкая гістарычная грамадскасць адзначае цікавую дату — роўна 65 гадоў таму з мапы Германіі і Еўропы знікла адміністратыўная адзінка — Прусія. Так вырашыў Савет саюзнікаў, якія акупавалі Германію, выдаўшы адпаведны загад. Нагадаем, што ў XIX стагоддзі Прускае каралеўства было базай аб'яднання Германіі, для чаго спатрэбілася як мінімум тры вайны. Таму ў Англіі і Францыі слова «Прусія» чамусьці выклікала негатыўныя сантыменты, што і стала падставай для яе ліквідацыі. Гісторыкі лічаць рашэнне саюзнікаў дзіўным, паколькі менавіта Прусія ў часы Веймарскай рэспублікі была бастыёнам сацыял-дэмакратыі і, адпаведна, супрацьву нацыстам. Хаця ёсць і іншыя погляды. Менавіта ў Прусіі ўзнік асаблівы, вельмі небяспечны ў вачах дэмакратаў, тып капіталізму, калі нацыянальна арыентаваная арыстакратыя і дзяржава былі моцна звязаныя. Цікава, што ліквідацыя Прусіі была апошнім сумесным рашэннем усіх чатырох саюзнікаў (Вялікабрытанія, ЗША, СССР і Францыя). Пасля паміж імі імкліва пачалі ўзрастаць канфлікты, якія прывялі да стварэння дзвюх Германій.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. НОВЫЯ КАЗУСЫ КАЗАХСКАЙ ФЕМІДЫ

Улады Казахстана ў чарговы раз дэманструюць забаўную трактоўку права, выношваючы планы забароны Камуністычнай партыі Казахстана (КПК). Гэта незвычайная гісторыя пачалася ўвосень мінулага года. 5 кастрычніка было апублікавана паведамленне, што Міжраённы адміністрацыйны суд горада Алма-Аты прыпыніў дзейнасць Камуністычнай партыі Казахстана на шэсць месяцаў за ўдзел у апазіцыйным руху «Народны фронт». На самай справе ўсім было відавочна, што гэта зроблена для таго, каб не дапусціць удзелу камуністаў у снежаньскіх парламенцкіх выбарах і правесці ў парламент лаяльную Назарбаеву Народную Кампарыю. Зараз жа менавіта таму, што КПК не ўдзельнічала ў выбарах, ёй пагражае забарона. Такі параграф сапраўды існуе ў казахскім законе пра партыі. Камуністы разумеюць, што шансаў давесці абсурднасць учынкаў чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі мала, і таму робяць стаўку на міжнародную салідарнасць. У абарону аднадумцаў ужо выступілі шэраг камуністычных партый блізкага і далёкага замежжа, сярод якіх нават забароненая кампартыя Літвы.

**Паводле казахскай прэсы**

---

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПАРАЖЭНСТВА ПА-АРГЕНЦІНСКУ

*Алег НОВІКАЎ*

**У 30-ю гадавіну вайны за Фальклендскія (Мальвінская) астравы шмат аргенцінцаў дзякуюць Вялікабрытаніі за тое, што 30 гадоў таму яна перамагала іх краіну.**



Да гэтага дня — 2 красавіка, калі ў 1982-м пачалася вайна, — былыя праціўнікі рыхтаваліся як мінімум паўгода. Прыкладна тады зноў пачала набіраць ход напружанасць вакол выспаў, абвастрыліся дэбаты наконт вынікаў брытанска-аргенцінскага канфлікту і будучага лёсу Фальклендаў. Паступова адносіны Англіі і Аргенціны перайшла ў фармат халоднай вайны, у якой у выніку, на думку абсалютнай большасці каментатараў, уверх узяла Аргенціна.

Дзякуючы актыўнай працы аргенцінскага МЗС тэма астравоў зноў вынесена на павестку дня міжнароднай супольнасці. Буэнас-Айрэс здолеў прыцягнуць на свой бок краіны Лацінскай Амерыкі. Так, была падпісана дамова ў рамках Mercosur (наднацыянальнай арганізацыі краін Лацінскай Амерыкі) пра забарону на ўваход у парты краін-сяброў арганізацыі караблёў пад сцягам Фальклендаў. У пачатку сакавіка прэзідэнт Аргенціны Крысціна Кірхнер паспрабавала прыпыніць прамыя авіякантакты паміж Портам Стэнлі (сталіца Фальклендаў) і кантынентам. Адначасова была ўведзена забарона на імпарт у Аргенціну брытанскіх тавараў.

Патрабаванні Аргенціны падтрымалі шмат вядомых культурных зорак, у тым ліку брытанскіх. Апошні ўдар па Альбіёну быў нанесены 2 красавіка, калі 6 лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі заклікалі Даўнінг-стрыт пачаць перамовы наконт будучага статусу астравоў.

Унутры Аргенціны таксама назіраецца патрыятычны «драйв». Увогуле, і без таго тэма Мальвінаў заўсёды прысутнічае ў нацыянальнай палітычнай дыскусіі. Як калісьці пажартаваў адзін нямецкі часопіс, ёсць дзве тэмы, якія здольныя выклікаць у аргенцінца эмацыйную траўму, — футбол і Мальвіны. Яшчэ з пачатку 1960-х штогод краіна выносіць на разгляд ААН праект рэзалюцыі з асуджэннем брытанскай каланізацыі Фальклендаў.

Аднак цяпер патрыятычныя настроі папросту зашкальваюць. Лепшы прыклад — сустрэча, якую арганізавалі аргенцінскія ўлады ў мінулым годзе аднаму з жыхароў Фальклендаў, якому нешта стукнула ў галаву адмовіцца ад брытанскага пашпарту на карысць аргенцінскага. З гэтай мэтай ён накіраваўся ў Буэнас-Айрэс. Там яго чакаў... асабіста прэзідэнт. У гонар новага суайчынніка быў арганізаваны спецыяльны прыём у прэзідэнцкай адміністрацыі.

Адпаведна апытанням, 80 працэнтаў грамадзян Аргенціны лічаць прэтэнзіі на архіпелаг справядлівымі і гістарычна абгрунтаванымі. 60 працэнтаў выступаюць за радыкальнае рашэнне праблемы, і толькі 24 працэнта рэспандэнтаў заклікаюць урад шукаць кампрамісны варыянт.

Але ў той жа час, упершыню за 30 гадоў, у Аргенціне ўзнікла адметная фракцыя тых, хто не пагаджаецца з афіцыйнай думкай наконт фальклендскага канфлікту. Гэтых дысідэнтаў можна падзяліць на тры групы.

Перш за ўсё, гэта гісторыкі-марксісты, якія падыходзяць да праблемы з пункту гледжання славутай працы Уладзіміра Леніна пра права нацый на самавызначэння. Калі прааналізаваць сітуацыю з пазіцыі правадыра пралетарыяту, то праўда, безумоўна, на баку Вялікабрытаніі. Практычна ўсе абарыгены архіпелагу — этнічныя брытанцы і пераходзіць свядома пад аргенцінскі суверэнітэт не жадаюць. Гэта разбурае аргенцінскую канцэпцыю пра тое, што Фальклендзы — рэлікт Брытанскай Імперыі. Лідарам гэтага накірунку з'яўляецца палітолаг Ацілія Барын (Atilio Boryn), які абвінаваціў родны ўрад у «абстрактным касмапалітызме» — спекуляцыях на тэме праў абстрактных неіснуючых у прыродзе жыхароў Мальвін аргенцінскага паходжання.

Барын прызнае той факт, што ў 1833 годзе, калі брытанцы захапілі выспы, тагачаснае насельніцтва было дэпартавана. Пытанне ў тым, ці былі тыя «дэпартаваныя» аргенцінцамі? Краіны з такой назвай на той момант на карце не існавала. Не існавала, па сутнасці, і аргенцінскай нацыі, якая склалася толькі на хвалі міграцыі з Еўропы на пачатку XX стагоддзя.

Другая фракцыя аргенцінцаў, якая аспрэчвае канон дзяржаўнай прапаганды — мясцовыя індзейцы або нашчадкі індзейцаў. Менавіта аргенцінскія індзейцы, безумоўна, былі першымі жыхарамі Фальклендаў і больш за іншых маюць гістарычныя правы на архіпелаг. Праблема, аднак, у тым, што правы саміх аргенцінскіх індзейцаў афіцыйны Буэнас-Айрэс упарта не жадае прызнаваць. Афіцыйная гістарыяграфія вельмі скупа гаворыць пра каланіяльны этап аргенцінскай гісторыі, калі на працягу XIX стагоддзя праходзіла экспансія белых каланістаў у Патагонію. Аргенцінцы знішчалі тут цэлыя плямёны.

Дасюль няма ніводнага знаку таго, што ўлада напросіць прабачэння за генацыд у індзейцаў, якія таксама не маюць ніякіх дзяржаўных інстытутаў. Апошні раз такая тэма ўзнікла год таму, калі на поўдні краіны знайшлі нафту. Сціплыя заявы абарыгенаў пра тое, што гэта іх гістарычная зямля і някепска было б надаць ім нейкую аўтаномію, у метраполіі трактавалі як абсурд.

Нарэшце, трэцяя група — праваабаронцы, якія прайшлі праз усе жахі вайсковай дыктатуры, якая панавала ў краіне на той час. Своеасаблівым маніфестам гэтай групы стаў артыкул у іспанскай «El País» за 2 красавіка. Яго аўтары называюць Маргарэт Тэтчэр «вызваліцелем Аргенціны». Логіка аўтараў тэксту простая: калі б Жалезная Лэдзі ў адказ на аргенцінскую акупацыю Мальвінаў не даслала на поўдзень Атлантыкі вайсковую армаду, тагачасная дыктатура ў Аргенціне магла б кансалідавацца і атрымаць другое дыханне. І гэта не выдумка. Вядома, што дэсант на Мальвіны справакаваў у Аргенціне шквал патрыятычных сентыментаў. На цэнтральную Майскую плошчу на маніфестацыю ў падтрымку ўраду выйшлі 100 тысяч чалавек, сярод якіх было шмат праціўнікаў хунты.

Перамога Аргенціны значыла працяг кашмараў папярэдніх шасці гадоў панавання вайскоўцаў, калі было забіта 30 000 апанентаў ураду, і, адпаведна, далейшую ментальную агонію аргенцінскай нацыі. А значыць, кожны сумленны аргенцінец, піша «El País», адказваючы тады і сёння на пытанне, што важней — валоданне Мальвінамі або дэмакратыя, павінен быў абраць апошняе. А адзіны маршрут да дэмакратыі пралягаў праз страту рэжымам даверу і аўтарытэту ў народзе, што, у сваю чаргу, патрабавала паразы Аргенціны ў вайне з Вялікабрытаніяй. Так у выніку і адбылося. Праз паўтара гады пасля правалу вайсковай авантуры супраць Англіі пад ціскам вуліцы хунта пагадзілася на інстытуцыйныя рэформы.

Артыкул у іспанскай газеце заканчваецца забойнай фразай: «Маргарэт Тэтчэр, магчыма, не зрабіла нічога добрага для Англіі, аднак для Аргенціны яна зрабіла вельмі шмат». Можа, гэта рэзюме гучыць занадта правакацыйна, аднак такі падыход таксама нельга ігнараваць. Гэта дае шанец, што ў Аргенціне, як і ў Вялікабрытаніі, адмовяцца ад простых схем трактоўкі вайны 1982 года і сведкамі новай вайсковай канфрантацыі за Фальклендзы мы ўжо не станем.

МЕРКАВАННЕ

# ВЯРТАННЕ КАМУНІСТАЎ

**Сенсацыяй апошніх дзён прэзідэнцкай кампаніі ў Францыі стаў выхад на трэцяе месца ў рэйтынгах папулярнасці Жана-Люка Меленшона, кандыдата ад звязанай з камуністамі групоўкі «Левы фронт». Пра феномен Меленшона і ход выбараў журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з французскім калегам Аляксандрам Чукаевым.**



***— За апошнія два тыдні Меленшон здолеў павялічыць свой рэйтынг з 11 аж да 15 працэнтаў. Яму яшчэ далёка да фаварытаў — сацыяліста Франсуа Аланда (28 працэнтаў) і Нікаля Сарказі (29 працэнтаў). Аднак для звязанага з Кампартыяй палітыка такія лічбы — фантастыка. Апошні раз такая буйная электаральная база падтрымкі была ў «чырвоных» хіба што на пачатку 1980-х гадоў. На папярэдніх выбарах прэзідэнта за іх кандыдата галасавала не больш за 2 працэнта.***

— Нягледзячы на відавочны ўздым, сталага рэйтынгу ў Жана-Люка Меленшона няма. Яго рэйтынг узняўся пасля вялікага канцэрту на плошчы Бастыліі, які сабраў 250 тысяч чалавек. У цэлым рост рэйтынгу разглядаецца як частка традыцыйнага гістарычнага руху Камуністычнай партыі Францыі (PCF), папулярнасць якой на фоне крушэння СССР і рэфарматарскага руху левых у Еўропе скарацілася да смешных трох працэнтаў.

Аднак PCF здолела выжыць у тым ліку дзякуючы рэсурсам, якія атрымала ў часы існавання СССР, і, больш таго, ідэйна нават застацца на класічных варыянтах сталінізму. Жан-Люк Меленшон адрозніваецца ад прадстаўнікоў PCF толькі тым, што ён прамаўляе больш цікава і адкрыта, часта негатыўна кажа не толькі пра сваіх супернікаў, але і пра іміграцыю (іміграцыя — гэта адна з балючых тэмаў Францыі). Таксама яго ведаюць як прыхільніка ідэі росту мінімальнай заработнай платы да 1700 еўра, якая зараз складае 1200. Аднак у цэлым «трэцім» кандыдатам, хутчэй за ўсё, будзе Марын Ле Пэн, паколькі да камуністаў стаўленне ў цэлым у французаў негатыўнае.

***— З якой праграмай Меленшон і «Левы фронт» ідуць на выбары?***

— Пра праграму «Левага фронту» казаць усур'ёз немагчыма, паколькі ў цэлым сам «Левы фронт» створаны не для рэалізацыі палітычнай праграмы, а для стварэння ілюзіі левага руху. У праграме Меленшона, як даніна сучаснай модзе, закранаюцца сацыяльныя праблемы, хаця пры гэтым пакідаюцца на другім плане формы палітычных адносін і правы ўласнасці. Асноўнай прывабнай для электарату фішкай «Левага фронту» з'яўляецца лозунг павелічэння зарплаты, хоць большасці французаў зразумела, што падвышэнне зарплаты павялічвае кошты на прадукты.

***— Які партрэт сярэдняга выбаршчыка «Левага фронту»?***

— Гэта людзі сярэдняга ўзросту, якім не зразумелы кансерватызм камуністаў, але пры гэтым яны адчуваюць блізкасць з працоўным рухам, яго ідэямі XX стагоддзя. Людзі, якія адчуваюць неабходнасць у цэнтралізаванай партыі, але каб гэта была партыя, у якой дапускаюцца вольныя меркаванні і адсутнасць дыктату ЦК. Плюс абавязкова негатыўнае стаўленне да эліты Сацпартыі, дзе пасля Франсуа Мітэрана засталася традыцыя есці на вячэру чорную ікру з шампанскім. Такім крытэрам асабліва добра падыходзіць постаць Меленшона, які раней быў у Сацпартыі, а пасля выйшаў на знак пратэсту супраць апартунізму кіраўніцтва і разам з камуністамі стварыў «Левы фронт».

***— Чаму камуністы пагадзіліся на падтрымку Меленшона? Здавалася, у іх болей вопыту ўдзелу ў выбарах, не кажучы пра матэрыяльны рэсурс...***

— Камуністы пагадзіліся на поўную падтрымку «Левага фронту», паколькі гэты іх прадукт, створаны як альтэрнатыва «Новай антыкапіталістычнай партыі» (NPA), якую арганізавалі трацкісты, і якая адзін час была вельмі папулярная.

***— Той факт, што Меленшон абышоў Марын Ле Пэн у рэйтынгах, значыць крах ілюзіі правых — падпарадкаваць сабе французскі працоўны рух?***

— Наўрад ці. Поспех Марын Ле Пэн звязаны сёння перш за ўсё з тым, што яна, стаўшы паўнапраўным правадыром «Нацыянальнага фронту», змагла не толькі знайсці кампраміс з рознымі нацыяналістычнымі рухамі і сектамі, але і зрабіць сваім галоўным лозунгам сацыяльныя праблемы, а не іміграцыйныя, тым самым заваяваўшы папулярнасць сярод працоўных (дарэчы, шматлікія спецыялісты дасюль прагназуюць ёй нават другое месца на гэтых выбарах).

***— Як ставяцца да кандыдатуры Меленшона прафсаюзныя цэнтры?***

— Прафсаюзы цяпер у цэлым на баку сацыялістаў, паколькі перакананыя, як і большасць грамадзян, што неабходна зноў галасаваць не за праграму партыі, а супраць Сарказі. Шматлікія палітолагі лічаць, што Сарказі зможа перамагчы і застацца прэзідэнтам выключна тады, калі Марын Ле Пэн будзе яго канкурэнтам у другім туры.

***— Ці значыць поспех Меленшона канец праекта «Новай антыкапіталістычнай партыі»? Наколькі прыкметныя трацкісты, якія раней былі вельмі актыўнымі, у гэтай выбарчай кампаніі?***

— Поспех Меленшона не значыць крах праекту NPA. Папросту раней фронтмэнам «Новых антыкапіталістаў» быў паштальён Алівер Безансено, які на выбарах прэзідэнта ў 2007-м атрымаў 4,08%, што на парадак больш, чым у кандыдата ад камуністаў. Аднак на гэты раз ён асабіста адмовіўся ад удзелу ў выбарах, бо яму давялося прайсці праз суды за акупацыйныя страйкі, і тым больш стала зразумела, што яго ўдзел у першым туры можа адабраць шмат галасоў у сацыялістаў, а гэта можа дазволіць Марын Ле Пэн прайсці ў другі тур.

***— Калі Меленшон падтрымае ў другім туры Аланда, ці могуць яго паплечнікі разлічваць на ўдзел ва ўрадзе? Калі не — якія перспектывы ў левых у сярэднетэрміновай перспектыве?***

— Хутчэй за ўсё, «Левы фронт» не атрымае сур'ёзнага прадстаўніцтва ў будучым урадзе Аланда, паколькі сам Меленшон з'яўляецца здраднікам у вачах істэблішменту Сацпартыі. Калі не казаць пра тое, што шматлікія сацыялісты яго ў лепшым выпадку ўспрымаюць яго як палітычнага клоуна, які гатовы супрацоўнічаць з усімі, каб застацца на публіцы. «Левы фронт» мае ўсе перспектывы існавання, бо яго фінансуе і падтрымлівае PCF — партыя, якая нягледзячы на тое, што не жадае ўнутраных рэформаў і змен, выдатна можа ствараць падкантрольныя сабе арганізацыі, якія быццам маюць «самастойнае» месца ў палітыцы.

***— Вы працуеце на радыё «Libertaire», якое звязана з Федэрацыяй анархістаў Францыі. Якое стаўленне анархістаў і рознага кшталту антыглабалістаў да з'яўлення ў вялікай палітыцы Меленшона?***

— Большасць анархістаў у Меленшоне бачаць палітычнага кар'ерыста, які мае замашкі сталініста. У цэлым анархісты ставяцца да яго адмоўна, паколькі, за выключэннем партыйнай арганізацыі, новай палітычнай базы пад сябе Меленшон так і не стварыў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ



У поле зроку прэзідэнта Туркменістана трапіла такая сфера чалавечай дзейнасці, як фотаздымкі. Ва ўсе дзяржаўныя ўстановы разаслана дырэктыва пра неабходнасць змяніць фатаграфіі ў асабістых справах супрацоўнікаў. Паводле дырэктывы, усе павінны сфатаграфавацца ў нацыянальным адзенні. Прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў — галоўным чынам гэта этнічныя рускія — зрабілі частковае выключэнне. Ім дазволена не пакрываць галаву хусткамі ці цюбецейкамі. Шмат хто баіцца, што новыя патрабаванні для дарослых адносна адзення могуць у будучым быць такія ж строгія, як і да дзяцей. Школьнікам Туркменістана дазваляецца з'яўляцца на вуліцах выключна ў адзенні афіцыйнага фасону. Найбольш праблем гэта выклікае ў дзяўчынак з кароткімі валасамі. Паколькі стандарт патрабуе, каб усе дзяўчынкі насілі косы, ім даводзіцца набываць штучныя косы і прышываць іх да цюбецеек — таксама абавязковага атрыбуту гардэробу.

### ЯЎГЕН УРЛАШОЎ



Беспартыйны кандыдат, дэпутат гарадскога муніцыпалітэта Яраслаўя, набраўшы 69,65% галасоў выбаршчыкаў, стаў мэрам гораду. Яго канкурэнт — стаўленік губернатара, адзінарос — атрымаў 27,78%. Трыма тыднямі раней падобная неспадзяванка адбылася ў Тальяці, дзе на выбарах мэра таксама перамог апазіцыйны палітык з камуністычнай партыі. Падзеі ў расійскай глыбінцы зноў удыхнулі веру ў апазіцыю, якая трошкі ўпала духам пасля правалу сакавіцкіх пратэстаў супраць абрання Пуціна прэзідэнтам. Вынікі выбараў мэра ў Яраслаўлі паказалі, што пратэстныя настроі ў грамадстве — устойлівыя і стабільныя, як і запыт на змены, лічаць яны. На гэтым фоне, па словах апазіцыйных экспертаў, прэзідэнцкія выбары выглядаюць «як пэўная дэвіяцыя, звязаная з тым, што Пуціну не было рэальнай канкурэнцыі, рэальнай электаральнай мабілізацыі. Як толькі пачынаецца звычайная канкурэнтная барацьба, мы пабачым абсалютна іншы сцэнар». Хаця ёсць і іншыя думкі. Шмат хто ўзгадвае, што Урлашоў — у мінулым адзінарос, які, верагодна, «папросту не атрымаў хлебных месцаў у Дзярждуме ці ў вобласці», і таму падаўся ў апазіцыю. Таму вялікая верагоднасць, што яго палітыка не будзе адрозніваца ад курсу папярэдніка, што, натуральна, ударыць па іміджу дэмакратаў.

### ГЕРАЛЬД ХОЙЗЕР

Старшыня правай папулісцкай Свабоднай партыі Аўстрыі (FPO) у зямлі Цiроль выклікаў міжнародны скандал, размясціўшы ў горадзе Інсбурк напярэдадні муніцыпальных выбараў плакат з надпісам «Heimatliebe statt Marokkaner-Diebe». Гэта можна перакласці з нямецкай як «Лепш любоў да радзімы, чым злодзей з Марока». Па словах аўтара, плакат не ўтрымлівае ксенафобскіх ідэй, а накіраваны выключна супраць мараканцаў, якія гандлююць у Інсбруку наркотыкамі. Зразумела, што мараканскі МЗС быў вымушаны неяк рэагаваць. Аўстрыйскаму паслу ў Рабаце перадалі ноту пратэсту. Аднак дыпламатычны скандал не спыніў правага палітыка. Ён адмовіўся прыбіраць скандальныя плакаты і прапанаваў уладам Марока забраць усіх мараканскіх эмігрантаў з Цiроля да сябе. Самае цікавае, што кандыдат ад FPO ў мэры Інсбрука, наадварот, папрасіў прабачэння ў мараканскай камуны. Гэта, дарэчы, нядзіўна, паколькі скандал з плакатамі пагражаў яму іскам у суд. Хадзілі плёткі, што кароль Марока асабіста патрабаваў знайсці лепшых аўстрыйскіх юрыстаў, каб пакараць FPO з Інсбрука.



ЛЁС

# СЛЕД КАЛАБАРАНТА. МАСТАК

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**29 чэрвеня 2006 года Махроўскі сельскі выканаўчы камітэт прыняў рашэнне №62 аб ушанаванні памяці Рубановіча Анатоля Паўлавіча (12.04.1908–14.01.1970) наступным чынам: перайменаваць вуліцу Юбілейную вёскі Махро ў вуліцу імя Рубановіча; жыхарам вуліцы Юбілейнай вёскі Махро забяспечыць у вызначаным парадку ўнясенне зменаў у рэгістрацыйна-тэхнічную дакументацыю жыллёвых дамоў, пазначаных у пункце 1 сапраўднага рашэння.**

Пасяджэнне сельвыканкама стала афіцыйнай адмашкай для пачатку актыўных дзейнняў грамадскасці, якая з усёй апантанасцю ўзялася за справы. У красавіку 2007 года ўжо напоўніцу ішла праца ў музеі махроўскай сярэдняй школы па стварэнню экспазіцыі новай залы, прысвечанай творчасці Рубановіча і яго вучням. Варта адзначыць, што амаль усё ўвасаблялася без аніякага фінансавання, на дабрачынных пачатках.

Урачыстае ўшанаванне жыхара «палескай перліны», вёскі Махро, стала не толькі мясцовым святам, але і скасаваннем яшчэ адной «белай плямы» ў гісторыі XX стагоддзя ў Беларусі.

Карыстаючыся нагодай, аддзячым захавальніцу фондаў музея Валянціну Раманюк, рупнасцю якой копіі ўсіх працоўных матэрыялаў, датычных Анатоля Рубановіча, трапілі ў адрас Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, з ласкі дырэктара якога, Ганны Вячаславаўны Запартыкі, я іх атрымаў.



Анатоль Рубановіч — па этапах жыцця: у маладосці, у пас. Ласінае, у Архангельску, у адвечным спакоі

## Бацькі

Бацька нашага героя — Павел Адамавіч Рубановіч, як і дзед Адам Якаўлевіч, паходзіў з вёскі Лемяшэвічы пад Пінскам. Нарадзіўся Павел Адамавіч якраз на Пакроў 1876 года ў сям'і патомнага праваслаўнага святара, у якой, апрача яго, было яшчэ пяцёра дзяцей.

Да 1896 года Павел выхоўваўся і навучаўся ў Пінскай духоўнай вучэльні, потым закончыў 5 класаў Тульскай духоўнай семінарыі. У 1900 годзе ён быў накіраваны на службу ў Мінскае губернскае праўленне, дзе хуткім часам быў пераведзены на пасаду калежскага рэгістратара, а неўзабаве заняў месца справавода 5-га стала. (У асабістай справе Паўла Адамавіча, што захоўваецца ў Брэсцкім абласным архіве, ёсць дакумент, які сведчыць аб унясенні яго ў снежні 1901 года ў дваранскую радаслоўную кнігу Расійскай імперыі).

23 снежня 1905 года Павел Адамавіч Рубановіч, які ўжо займаў пасаду тытулярнага саветніка, пабраўся шлюбам з дачкой святара з Бабруйскага ўезда Вольгай Уладзіміраўнай Уруцэвіч, што працавала настаўніцай мінскай жаночай гімназіі. А праз некалькі гадоў сям'я пабольшала: 12 красавіка 1908 года ў Стаўбцоўскім раёне (па іншых звестках, у Мінску) у Паўла Адамавіча нарадзіўся сын, нарачоны Анатолем.

З шэрагу версіяў і здагадак наконт паходжання прозвішча Рубановіч, распаўсюджанага на землях былога Вялікага Княства Літоўскага сярод мясцовай шляхты, бытавала меркаванне, што ўтворана яно было ад дзеяслова «рубіць». Не выключана, што так маглі празваць чалавека, што быў знявечаны на вайне, атрымаў «рубленую рану». Прозвішча «рубан» маглі даць і сталяру. Як бы там ні было, але падчас Першай сусветнай вайны Павел Адамавіч стаў палкавым свяшчэннікам, за што, відаць, і быў адзначаны бронзавым медалём, ордэнамі Белага Арла і Св. Станіслава 3-й ступені, медалём у гонар 300-годдзя Дома Раманавых.

«Душаратавальную ніву» не пакінуў і пасля кастрычніцкага перавароту, хіба што звярнуўся ў Духоўную Кансісторыю ў 1918 годзе з прашэннем перавесці яго з грамадзянскай службы ў царкоўную. Мажліва, што гэты крок зберог ягонае жыццё. Рукапаложаны ў 1921 годзе ў сан святара Цырскай (былой уніяцкай) царквы, потым спраўляў пастырскія абавязкі ў пабудаванай напрыканцы XIX стагоддзя ў псеўдарускім стылі Троіцкай царкве мястэчка Лагішын. Значная частка жыцця была пражытая на колах і ў пераездах.

Надыходзіў час грунтоўна асталёўвацца, і Павел Адамавіч звяртаецца ў 1927 годзе з прашэннем перавесці яго куды-небудзь на больш сталую службу. Так трапіў ён на самы ўскраек Беларусі, у вёску Махро Пінскага ўезду. Змяніў памерлага святара Туміловіча ў невялічкай, пабудаванай у 1792 годзе Пятра-Паўлаўскай царкве, драўляныя аб'ёмы якой, як заўважаюць даследчыкі архітэктуры, з'яўляюцца «прыкладамі перапрацоўкі на Беларусі мураванай архітэктуры стылю барока». Дарэчы, у час перабудовы на адной з падрубін майстры змаглі прачытаць прозвішча будаўніка храма — Парфірыя Дашкевіча з сяла Адрыжын.



А. Рубановіч. Ранняя вясна

## Сын

Нашчадак святарскага роду Рубановічаў — Анатоль атрымаў неблагую адукацыю. Напачатку хатнюю, а потым у Пінскай духоўнай вучэльні. З маленства быў здатны да малявання. Здольнасці юнака запрыкмеціў епіскап Пінскі айцец Пётр, які з 1921 года быў у ліку распрацоўшчыкаў праграмы падтрымкі здольных прыхаджан. Факт атрымання на саборы ў 1922 годзе польскай праваслаўнай царквой аўтакефаліі падштурхнуў іерархаў да запачаткавання ўласнай іканапіснай школы, для ўвасаблення якой наладжваліся сувязі як з мастацкімі ўстановамі карэннай Польшчы, так і з Заходняй Украінай.

Па праграме падрыхтоўкі «ўласных багамазаў» Анатоль трапіў напачатку ў Варшаўскую мастацкую вучэльню (будучую Акадэмію мастацтва). Сямейнае паданне сцвярджае, што па вяртанню з Варшавы Анатоль удасканаліў сваё майстэрства ў Вене ды Парыжы. Выстава яго твораў, зладжаная ў 1938 годзе ў Вільні, дзякуючы клопату стрыечнай сястры Ксеніі, сталася «справаздачнай». Сучаснікаў тады вельмі ўразілі велічна-прыгожыя абразы Мікалая Цудатворца, Серафіма Сароўскага ды Укрыжаванне. У тагачасным віленскім друку ёсць станоўчыя водгукі на выставу. У фондах жа школьнага музея вёскі Махро зберагаюцца ўспаміны сведкаў, як мастак працаваў над гэтымі абразамі.

Да верасня 1939 года рэлігійная тэматыка была вядучай у творчасці Анатоля Рубановіча. Ад моманту далучэння Заходняй Беларусі да БССР творчы дыяпазон яго — як сюжэтна, так і жанрава — пашыраецца і збочвае ад абранай магістральнай лініі. Неўзабаве збег знешніх абставін, памножаны на душэўны непакой юнацтва — пачатак Другой сусветнай вайны і савецкая акупацыя, смерць бацькі ў 1940 годзе, — мацуюць у ім перакананне цалкам прысвяціць сябе духоўнаму служэнню. Ад прыроды маючы добры голас і музычны слых, ён становіцца псаломшчыкам махроўскай Пятра-Паўлаўскай царквы, дзе з усёй душой выконвае свае абавязкі, не зважаючы на прыйшоўшую ў іх вёску вайну. Па смерці Рубановіча-старэйшага настаяцелем царквы быў Серафім Якаўлевіч Калінін (1905 года нараджэння, з вёскі Дзеткавічы Кобрынскага раёна; закончыў 6 класаў рэальнай вучэльні ў Пінску).

## Пад абцасамі

Пінск і Брэст з навакольнымі мястэчкамі і селішчамі ў часы другой нямецкай акупацыі былі перададзены пад патранат рэйхскамісарыята «Украіна». Што акупацыя заўжды ўздзейнічае разбуральна на чалавека і на грамадства — аксіёма. Нямецкая акупацыя не была выключэннем. Тым больш, што за колькі папярэдніх гадоў «пад саветамі» беларуская грамада шпарка пазбаўлялася гуманізму і грамадскай салідарнасці і, такім чынам, яшчэ больш падрыхтоўвалася да глыбейшых разбурэнняў. Стратэгія выжывання — рэч індывіду-

# АНАТОЛЬ РУБАНОВІЧ

альная. З нешматлікіх варыянтаў найболып распаўсюджанымі былі падпарадкаванне акупантам, выжыванне коштам жыццяў іншых. Трэці, найбольш трапны варыянт, які выбраў Анатоль Рубановіч, трывала абапіраўся на хрысціянскую мараль.

Звыкла і шчыра адпраўляў набажэнствы ў мясцовай царкве і кіраваў хорам, нёс землякам словы малітвы і суцяшэння, не пакідаў і заняткі мастацтвам. Выпрабаваннем сталася прызначэнне яго войтам Махроўскай гміны. Так ён трапіў у «калабаранты». Але жыхары вёскі аднагалосна сцвярджаюць, што, каб не спрактыкаваны розум ды чалавекалюбства мясцовага войта, хутчэй бы за ўсё, ні вёскі на мапе, ні яе жыхароў не было б і ў паміне.

## Пераможная вясна

Летам 1944 года, падчас нямецкага адступлення, Анатоль Паўлавіч з сям'ёй і іншымі жыхарамі вёскі, у ліку якіх была і яго будучая жонка, на 16 гадоў маладзейшая за яго, пакаёўка Антаніна, быў прымусова вывезены ў Нямеччыну. Адукаваны, свабодна валодаючы некалькімі еўрапейскімі мовамі, ён пасля паразы гітлераўскай Германіі мог бы застацца на эміграцыі і лёгка адаптавацца на новым месцы жыхарства. Зрабіць гэта было не дужа складана, бо лагер па дэпартацыі, у якім ён утрымліваўся, знаходзіўся ў амерыканскай зоне акупацыі.

Ці адчуваў сваю віну за службу ў немцаў? Каб быў вінаваты ў «здрадзе», то, мусіць, быў бы пакараны партызанамі, але «народныя мсціўцы» яго не кранулі.

Ці быў страх вяртання на Радзіму? Не, ад савецкіх афіцэраў сувязі, што былі адказныя за вяртанне суграмадзян у СССР, не хаваўся.

Хутчэй, наадварот, вяртанне на Радзіму мацавалася ў ім любоўю да радзімы і жыццёвай надзеяй на лепшае. На радасць бацькам падрастала дачушка Воля.

Па вяртанні Анатолю Паўлавічу прапанавалі выкладаць маляванне ў мясцовай школе. Шмат і з задавальненнем працаваў за мальбертам. Па большасці над партрэтамі ды краявідамі. Але лад ды спакой нядоўга панавалі ў іх доме.

## Калабарант

Дачушцы Волі не споўнілася і дзевяці месяцаў, калі адным днём спякотнага чэрвеня 1946 года ў хату да Рубановічаў завіталі госці з Пінску.



А. Рубановіч. Зімовы пейзаж

Па выраку ваеннага трыбунала войскаў МУС Пінскай вобласці Анатоль Паўлавіч Рубановіч быў асуджаны па артыкуле 63–1 Крымінальнага кодэксу БССР на 10 гадоў лагераў, з пазбаўленнем грамадзянскіх правоў на пяць гадоў і канфіскацыяй маёмасці. Ад расстрэлу выратаваў прыняты ў 1947 годзе закон аб адмене смяротнага пакарання.

Бясконцае, знешне пазбаўленае логікі, следства. Абсурдныя абвінавачванні ў супрацоўніцтве са святарамі-аўтакефалістамі мітрапаліта Мельхісэдэка, што былі расстраляныя ў Мінску яшчэ ў ліпені 1937 года, толькі на падставе падазрэння, дакументальна ніяк не даведзенага, у сваяцтве з епіскапам Міхалам Рубановічам. Шантаж сваяцтвам з пакараным у СССР у 1930 годзе «ворагам народа» пратаіерэям Парфірыем Рубановічам (ураджэнцам в. Лемяшэвічы Пінскага павету, забітым савецкімі партызанамі ў 1943 годзе, — С. Г.) . Ну і, зразумела, абвінавачванне ў «здрадзе савецкай радзіме» падчас нямецкай акупацыі.

Здрада Анатоля Паўлавіча палягала ў тым, «што часова пражываючы на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі (з чэрвеня 1941-га па жнівень 1943 года) служыў войтам Махроўскай гміны ў Іванаўскім павеце».

Доказам абвінавачвання было тое, што ён падтрымліваў (свядома і добраахвотна!) захопніцкі рэжым. Маючы пад сваім кіраваннем пяць старастаў з акаляючых Махро вёсак, ён арганізоўваў і кантраляваў выкананне загадаў нямецкіх уладаў па рэквізіцыі ў насельніцтва быдла, хлеба, цёплай вопраткі, а таксама па адпраўцы жыхароў гміны ў Нямеччыну на прымусовыя працы.

## Салідарнасць аднавяскоўцаў

Яшчэ падчас следства, у 1947 годзе, жыхар вёскі Махро Кухавец Фядос Іванавіч асмеліўся сабраць подпісы ледзь не ўсіх сваіх аднавяскоўцаў у абарону «ворага народа і калабаранта» Анатоля Рубановіча. Сталінскія абвінаваўцы, аднак, адпрэчылі дакументы, падрыхтаваныя «народнымі абаронцамі».

Анатоль Паўлавіч, будучы войтам гміны, ведаў, што староста вёскі Махро — Трафім Паўлюкавец дапамагае партызанам, што на тэрыторыі гміны з 10 траўня 1943 года дзейнічае падпольны вясковы савет, а вёска Калено — «сталіца партызанскага краю». Пазней Мікалай Кананчук, сын старшыні



А. Рубановіч. Партрэт маці

падпольнага савета Максіма Кананчука з вёскі Ляскавічы, распавядаў: «Ведаю, што Рубановіч быў звязаны з бацькам. Прыходзілася не раз паведамляць яму аб часе правядзення сходак, якія праводзіліся часцей за ўсё па начах у нашай хаце».

Адпаведна з «новым парадкам», калі ў вёсцы альбо блізу яе гінуў хоць адзін салдат рэйха, немцы расстрэльвалі 10–20 закладнікаў. Якраз увесну 1944 года на дарозе, недалёка ад Махро, узарваўся на міне воз з гуртам нямецкіх жаўнераў. Немцы сагналі за агароджу царквы Пятра і Паўла больш як 50 чалавек, сярод якіх былі старыя, жанчыны і дзеці, і нацэлілі на іх кулямёты. Да сёння народная памяць захавала, як з капелюшам у руцэ да нямецкага афіцэра рушыў Анатоль Паўлавіч, нешта доўга казаў яму, а калі аргументы ў абарону закладнікаў закончыліся, моўчкі пайшоў і стаў разам з імі. Што даводзіў святар нямецкаму афіцэру, не вядома, але пэўна тое, што пасля гэтага ахвярнага добраахвотнага далучэння святара да закладнікаў афіцэр зыркнуў на купку «прыгавораных» і даў каманду сыходзіць.

Па ўспамінах Данілы Катовіча і іншых, другі раз Анатоль Рубановіч выратаваў аднавяскоўцаў, калі пабач з хутарам Ігнатоўца падчас сутычкі быў забіты адзін з партызанаў і адзін немец.

У прадстаўнікоў новых уладаў Рубановіч выклікаў давер сваім святарскім «рукапалажэннем», дасканалым веданнем нямецкай мовы, здольнасцю лагічна абгрунтаваць свае доказы. Ён рабіў усё магчыма, каб ратаваць людзей, зберагчы вёску. За вайну ў вёсцы Махро ніводны чалавек не быў расстраляны.

## Вяртанне

Асуджаны 30 ліпеня 1947 года Рубановіч развітаўся з турэмна-гасцінным Мінскам. Яшчэ тры гады мусіў адседзець у астрозе МГБ-НКУС, пакуль быў этапаваны на поўнач. У сталінскім канцлагеры пасёлка Ласіны, што на Архангельшчыне, яго ратавала непахісная вера ў Бога. У задушліва-скразняковай шчылявай будыніне лагернага жытла, разлічанай на сорак спакутаваных і знясіленых працай у рудніку мужыкоў, адзінае, што мажліва было, дык гэта згадваць родную старонку, у думках размаўляць з роднымі ды маліцца пад драной посцілкай: «Божухна, дай сілы пераждаць, Божухна, дапамажы перацярпець».

«19.VII.1954, грамадзянін СССР, беларус… рашэннем сесіі Архангельскага аблсуда, на падставе арт. №457 і 462 УПК быў датэрмінова вызвалены, аб чым сведчыць Даведка № 0012515 ад 29.VII.1954».

Праз гады, ссівелы, з падарваным ушчэнт здароўем, асабістымі грашыма ў памеры 332 рублёў, вярнуўся ў родную вёску. Мусіў быў пачынаць жыццё ад пачатку. Не надта проста было ўладкавацца на працу з кляймом «вораг народа», але пашанцавала. Запатрабаваны быў і як загадчык вясковага клуба, прыдатным стаўся досвед яго як былога рэгента, спатрэбілася і мастацкая адукацыя. З 1960 года, не губляючы сувязі з клубам як асноўным месцам працы, выкладаў выяўленчае мастацтва ў Махроўскай школе.

Выключна інтэлігентны, добра выхаваны і адукаваны прафесіянал, ён заўжды быў надзвычай уважлівы да вучняў. Шмат хто з іх назаўжды звязаў сваё жыццё з алоўкам і пэндзлем. Але лёс падрослай дачкі Вольгі ён усё ж бачыў у медыцыне. Блаславіў яе на працу на гэтай ніве, якая пачалася з сястрынскіх курсаў у Іванаўскай лякарні.

## Творчы даробак

Ствараючы экспазіцыю музея, дабрачынныя супрацоўнікі яго і мясцовыя краязнаўцы, лістуючыся з пасёлкам Ласіны, здолелі атрымаць адтуль колькі вершаў Рубановіча ды алоўкавых накідаў «лагернага перыяду». Асноўная ж частка цяперашняй калекцыі сабрана «па хатах» жыхароў Махро і акаляючых вёсак. Усяго блізу 40 твораў. Першае, што звяртае ўвагу ў творах гэтага заходнебеларускага мастака — іх няроўны прафесійны ўзровень. Дарэчы, у публікацыях міжваеннага часу ён фігураваў як мастак-прафесіянал, а ў публікацыі, што з'явілася ў Іванаўскай раёнцы ў 1961 годзе, названы самадзейным мастаком. Мастацкую няроўнасць, мажліва, патлумачыць пакручастым жыццёвым шляхам, адсутнасцю акаляючай творчай атмасферы. Згадзіцеся, вайна, а пазней мазольная праца на апатытавых рудніках не спрыялі развіццю Богам дадзеных здольнасцяў мастака і паэта.

Сціплую на сённяшні дзень спадчыну заходнебеларускага мастака Анатоля Рубановіча можна ўмоўна падзяліць на некалькі часавых прамежкаў.

Творы першага, даваеннага перыяду, часу «ўзлёту творчых сіл і маладой энергіі» не захаваліся. Другі перыяд храналагічна акрэсліваецца межамі 1944–1946 гадоў. Асобныя з твораў сведчаць аб высокім узроўні яго прафесійнай падрыхтоўкі. З краявідаў сваёй непаўторна-чыстай мелодыяй вылучаецца камерная выява ўскрайку заснежанай палескай вёсачкі. Але ўсё ж партрэтам належыць прыярытэтнае месца.

Адзін з лепшых партрэтаў таго часу — «Партрэт маці» (папера, акварэль, змешаная тэхніка, 1946). Работа досыць вялікага памеру і на першае ўражанне зусім немудрагелістая. Пагрудная выява гераіні пададзена амаль у фас, але з лёгкім намёкам на разварот у тры чвэрці, які ў спалучэнні з віруючымі віхурамі ўмоўнага фону выклікае адчуванне дынамікі, або эфект «жывога жыцця». Сур'ёзна-ўладарная і разам з тым інтэлігентна-далікатная панна ў цёмным гарнітуры строгага крою і белай блузцы з брошкай-медальёнам годна глядзіць выпрабоўваючым позіркам шэра-блакітных вачэй праз круглыя шкельцы акуляраў. Знешняе падабенства выявы нестарой яшчэ «матушкі» з арыгіналам можа пацвердзіць яе фотавыява дарэвалюцыйных часоў.

У пасьлялагерны перыяд (ад 1956 года) Рубановіч не меў мажлівасці займацца не папулярным пры савецкай уладзе сакральным мастацтвам. У палескай глыбінцы, у атмасферы прафесійна-эстэтычнага вакууму, мяркуем, сюжэтны жывапіс (апрача зменлівага і непаўторнага краявіду) таксама быў без патрэбы. Свецкія, па большасці пагрудныя партрэты аднавяскоўцаў, пэўным чынам працягвалі запачаткаваную ім у даваенныя гады традыцыю пісання абразоў. Галерэя створаных партрэтаў аднавяскоўцаў досыць шырокая. Апрача разнастайнасці традыцыйных характарыстык герояў, стаўшых абавязковымі (моцная воля, характар, сур'ёзны позірк альбо абаянне маладосці — знешняя вабнасць, непасрэднасць і г.д.), мусім адзначыць агульную для ўсіх твораў рысу — іх светланоснасць. Ва ўсіх творах без выключэння чуецца шчырае імкненне мастака вылучыць хоць каліўца Боскага святла, што ёсць у кожным чалавеку.

Адбітак Боскага святла, што выпраменьваў Анатоль Паўлавіч, згас пад «стары Новы год» — 14 студзеня 1970 года.

▸ ТЭАТР

# ПРАФЕСІЙНАЯ, АЛЕ ПУСТАЯ ДЗЕЯ

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Наведванне тэатра — заўсёды свята. Нават калі мэты ў гледачоў розныя: хтосьці ідзе спрычыніцца да сапраўднага мастацтва, а хтосьці — прыемна правесці час. Мы выбраліся цэлай групай, і ўсе былі, мякка кажучы, расчараваныя.**




Дзівіліся асобным сцэнам, выказвалі заўвагі, успаміналі, якім тэатр быў раней… Прыкрасць і недаўменне — вось асноўныя нашы эмоцыі пасля спектакля не ў якім-небудзь шараговым — у Купалаўскім тэатры сталіцы.

На электронны адрас Міністэрства культуры РБ я назаўтра ж адправіла ліст наступнага зместу:

«На 22 сакавіка я мела неасцярожнасць набыць білеты для сябе і сваіх сяброў на новы спектакль тэатра імя Янкі Купалы «Калядная ноч». Гэтае відовішча — як і ўсё, што адбываецца апошнім часам у Беларусі, — выклікала ў мяне маркоту і ўпадак духу. Бо акрамя ўкраінскіх песень і яркай сцэнаграфіі там не было нічога вартага былой славы тэатра.

Відаць, пастаноўшчык доўга шукаў твор для ўвасаблення, і лепшага сцэнічнага матэрыялу, каб праявіць сваю маральную амбівалентнасць, ён знайсці проста не мог. Мне папросту шкада акцёраў, змушаных «выціскаць» змест і сэнс там, дзе іх не можа быць па вызначэнні.

Я разумею, ад тэатральнага лубка многага чакаць не даводзіцца, але ўсё, пабачанае на сцэне, на жаль, нават не забаўляе. Перад намі прафесійная, але цалкам пустая, расцягнутая дзея з бясконцым грукатам у дзверы і пераносам карзін, разбэйленая скокамі і распіцём спіртнога. Ніякія фармальныя знаходкі (тыпу лялечнай мізансцэны ў другой дзеі) не апраўдваюць псавання грамадскіх нораваў і густу за немалыя бюджэтныя сродкі.

Не парадавалі і акцёры. Такі галасавы фарсавы перабор (у персанажаў другога плану) можна пачуць хіба на самадзейнай сцэне, ды і там пачуцця меры бывае болей. «Нячысцік» бессаромна «косіць» пад маладога Манаева і сваім крыўлянннем канчаткова дыскрэдытуе спектакль. На месцы рэжысёра я падкарэктавала б гэты вобраз, бо зло цяпер іншае, больш рэспектабельнае, а Гогаль у труне і без таго перавярнуўся.

Лічу, што наяўнасць у рэпертуары спектакля такога нізкага ідэйна-мастацкага ўзроўню вымагае ад міністэрства большай увагі да дзейнасці акадэмічнага тэатра. Прашу — як мінімум — давесці мой ліст да ведама купалаўцаў.

*З павагай*
*Галіна Каржанеўская,*
*пісьменніца»*

## Пасляслоўе

Маё пасланне, вядома, дастаткова эмацыйнае. Але і адправіўшы яго, не перастала разважаць. А раптам у М. Пінігіна была якаясьці тайная і тонкая задума, якой я як глядач не здолела зразумець? А можа, ён хацеў такім чынам паказаць дэградацыю нашага грамадства — у надзеі, што самі здагадаемся? Калі так, то ён нас пераацаніў. Як мінімум, трэба было выразна расставіць маральныя акцэнты, а таксама падкрэсліць моманты судакранання твору Гогаля з нашай рэчаіснасцю.

Увогуле, сам факт з'яўлення падобных спектакляў на саліднай сцэне сімптаматычны. Пры немагчымасці сказаць праўдзівае слова сродкамі тэатральнага мастацтва толькі такія відовішчы і можна ствараць. Ні пра што. І з засцярогай, каб хаця сучаснік не пазнаў у якім-небудзь малапрыемным персанажы Самівеадаецкага.

Хлусня на дзяржаўным узроўні пусціла метастазы ва ўсе праявы грамадскага жыцця. Ідэалогія падмяла ўсё. Правілы гульні простыя: альбо ты, кіраўнік установы, прадпрыемства, аддзела і да т. п. «малюеш» патрэбную карціну, альбо цябе выціснуць з працы. Тэатры, якія ў большасці існуюць за бюджэтныя сродкі, не выключэнне.

Культура звыкла скардзіцца на малыя грошы, але як расходуюцца тыя, што ёсць? Ніхто ніколі, мабыць, не правяраў сістэму дзяржзаказаў, якая здаўна была залатым дном для асабліва прагавітых дзеячаў мастацтва. У якой яшчэ краіне можа існаваць на народныя грошы тэатр, дзе кіраўнік адначасова з'яўляецца аўтарам п'есы альбо сцэнарыстам кожнага другога спектакля? Куды дзяваюцца шматлікія рэжысёрскія кадры — выпускнікі нашай Мастацкай акадэміі, і чаму няма творчай ратацыі ў лялечных тэатрах краіны? Усе гэтыя пытанні засталіся, як гаворыцца, за кадрам, і на іх мы не скора пачуем адказ. Бо страціўшы галаву, па валасах не плачуць…

▸ СПАДЧЫНА

# ЯНЫЧАРЫ

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

**Цягам апошніх гадоў толькі ў цэнтры беларускай сталіцы зніклі некалькі адметных беларускіх брэндаў, да прыкладу, кафэ «Батлейка», «Бульбяная», «На ростанях», «Паляўнічы»…**

Днямі на фасадзе будынка, вядомага з 1976 года як Дом літаратара і пабудаванага на загад тагачаснага кіраўніка рэспублікі Пятра Машэрава, знішчылі аднайменны аб'ёмны надпіс.

Каму ён стаўся не даспадобы як дэкаратыўна-мастацкая аздоба ці, можа, ідэалагічная памылка? Гаспадарам суседняй урадавай рэзідэнцыі або тым, хто некалькі гадоў таму па-рэйдарску захапіў будынак і вывесіў пры галоўным уваходзе нягеглую шыльду «Адміністрацыйны корпус «Фрунзе, 5»?!

А можа на месцы зруйнаванага надпісу «Дом літаратара» паявіцца новы, высокаідэйны і высокамастацкі, кшталту «Дом писателей Белоруссии» або «ГА «Белая Русь»?!

Чакаем новай хвалі рускамоўных, англамоўных ці... кітайскамоўных надпісаў-брэндаў?!



Фота аўтара



Дом літаратара да і пасля «касметычнай рэканструкцыі»

▸ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**ГАРФІЛЬД — хлопец са строгім і сур'ёзным позіркам**



Але гэты руды кот па характары — добры, як дзіцё, лёгка ідзе на кантакт, адэкватны і ласкавы. Пасуе для сям'і з іншымі жывёламі альбо дзецьмі. Гарфільд кастрыраваны і прызвычаены да латку. Валанцёр прытулку «СуперКот» Алеся распавядзе вам болей пра гэтага чароўнага коціка, тэлефануйце: 8 (025) 615-51-57

**БІМ — прыгожы і разумны сабака са складаным лёсам**

Біму толькі 1,5 года. У яго кароткая залацістая поўсць і чорная маска. Гэты энергічны, актыўны, з добрымі ахоўнымі якасцямі сабака стане не толькі адданым сябрам, але будзе сачыць за домам. Постаць спартыўная, ростам каля 50 см. Паддаецца дрэсіроўцы. Шукае гаспадара з цвёрдым характарам і сям'ю без маленькіх дзяцей і котак. Падыходзіць як для прыватнага дома, так і для кватэры, дзе цудоўна сябе паводзіць і трывае да выгулу.



Знаёмства з Бімам праз валанцёра «СуперПса» Марыну, 8 (029) 633-16-35, 8 (029) 708-63-67

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 320

Падпісана да друку 06.04.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

При выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.